Літаратурная Беларусь

Выпуск №10 (182) (кастрычнік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

lit-bel.org
novychas.by

Змест



## БЫЛІ І БУДЗЕМ!

*Паважаныя аматары беларускага мастацкага вольнага слова!*

*Да вашай увагі — электронны працяг «Літаратурнай Беларусі», папяровая версія якой сёлета была забароненая разам са штотыднёвікам «Новы час».*

*У Беларусі ўжо не засталося аніводнага друкарскага варштата, каб распаўсюджваць беларускае слова — свабоднае, незалежнае. Не засталося аніводнай легальнай магчымасці гэта рабіць...*

*Тым не менш — мы былі і будзем.*

*Жыве Беларусь!*




Фота Аляксандра Ждановіча

# Барыс ПЯТРОВІЧ: «Ні Сталін, ні Брэжнеў, ні Андропаў не закрылі Саюз пісьменнікаў, і толькі беларуская ўлада зрабіла гэта»

*Вярхоўны суд з падачы Міністэрства юстыцыі 1 кастрычніка скасаваў дзяржаўную рэгістрацыю найстарэйшай творчай арганізацыі ў краіне — Саюза беларускіх пісьменнікаў. Ён праіснаваў 87 гадоў і ўвесь час быў апірышчам і абаронцам беларускай культуры і мовы. Чым ён стаў замінаць сённяшняй уладзе? На пытанні Міхася СКОБЛЫ (www.nv-online.info) адказвае старшыня ліквідаванага Саюза **Барыс ПЯТРОВІЧ**.*

***— Барыс, што стала фармальнай прычынай ліквідацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў? Якія «правіны» СБП дапусціў, што Міністэрства юстыцыі не змагло з імі змірыцца?***

— Усё настолькі проста і прымітыўна было зроблена, што ажно вусцішна... Фармальнай падставай для ліквідацыі СБП сталі два папярэджанні, вынесеныя на працягу ўсяго аднаго тыдня — 9 і 14 ліпеня. На кожнае нам быў дадзены тыднёвы тэрмін, каб выправіць заўвагі, але мы не змаглі гэта зрабіць. Паведамленне пра першае папярэджанне мы атрымалі па пошце 16 ліпеня, а 14-га ў нашым офісе адбыўсяператрус, праведзены супрацоўнікамі Следчага камітэта. У выніку офіс быў апячатаны, доступу да дакументаў, якія засталіся там, мы не мелі. Другое папярэджанне было вынесена за тое, што мы своечасова не прадставілі Мінюсту інфармацыю аб дзейнасці СБП за тры апошнія гады. Ліст аб гэтым мы атрымалі 13 ліпеня пасля абеду, а падаць інфармацыю неабходна было да канца гэтага ж дня. Падрыхтаваць за паўдня ўвесь аб'ём запрошаных дакументаў (а там было аж 27 пунктаў) і адвезці іх у Мінюст было проста фізічна немагчыма.

***— Вы неяк інфармавалі Мінюст пра гэта?***

— Так, мы адразу ж накіравалі ў міністэрства ліст з просьбай даць нам усяго адзін дзень адтэрміноўкі. Мы працавалі 13 ліпеня да позняга вечара, рыхтуючы неабходныя дакументы, а калі назаўтра прыйшлі ў офіс, каб скамплектаваць, апісаць іх і адвезці ў Мінюст, з'явіліся прадстаўнікі Следчага камітэта і апячаталі памяшканне. Дакументы засталіся за зачыненымі дзвярыма. Але калі б мы нават і змаглі адправіць 14 ліпеня запытаную інфармацыю, то ўсё роўна не паспелі б. Бо ўжо раніцай таго ж дня Мінюст вынес нам другое папярэджанне. Зразумела, што і яго выправіць мы не змаглі, пра што і паведамілі Мінюсту ў лісце. Але Мінюст 27 ліпеня накіраваў у Вярхоўны Суд пазоў аб ліквідацыі нашага Саюза. Мы паспрабавалі аспрэчыць другое папярэджанне ў Вярхоўным Судзе, але суддзя нашы доказы і абгрунтаванні не прыняў і не ўлічыў.

***— Атрымліваецца, што з боку ўлады было зроблена ўсё, каб СБП не змог выканаць яе патрабаванні?***

— Выходзіць, так. Хочаш не хочаш, а падумаеш, ці не стаіць за гэтым элементарны загад разабрацца з арганізацыяй, якая камусьці замінае. СБП за ўсю сваю гісторыю практычна не меў прэтэнзій з боку дзяржавы. Мы працавалі, выконваючы ўсе палажэнні Канстытуцыі і свайго статута. А тут адразу два папярэджанні запар іператрус з канфіскацыяй камп'ютараў і дакументаў...

***— Як рэагаваў суддзя Вярхоўнага суда Ігар Мільто (менавіта ён прымаў канчатковае рашэнне) на вашы аргументы — пра тое, што патрабаванні Мінюста вы выканаць не маглі?***

— Усе нашы доказы не былі прыняты. Мы павінны былі памерці, але выканаць загады Мінюста! А нейкія перашкоды суддзя палічыў нязначнымі. Дадам яшчэ, што мы і ў Следчы камітэт звярталіся, каб нам далі магчымасць патрапіць у офіс, каб перадаць дакументы ў Мінюст. З СК прыйшоў адказ: гэта немагчыма, бо працягваюцца следчыя дзеянні. Мы звярталіся таксама ў Мінскую пошту, і там пацвердзілі, што ліст з загадам прадставіць інфармацыю аб дзейнасці СБП мы атрымалі толькі ў другой палове 13 ліпеня. Дарэчы, прадстаўнік Мінюста гэта не адмаўляў, але не змог патлумачыць, чаму гэты ліст, падпісаны 6 ліпеня, толькі 8 ліпеня трапіў у паштовае аддзяленне самога Мінюста і толькі тады быў адпраўлены нам.

***— Міністэрства яго спецыяльна на два дні прытрымала?***

— Магчыма. І менавіта гэтых двух дзён нам і не хапіла. Але прадстаўнік Мінюста на першым судовым пасяджэнні сказаў, што гэта не іх, а нашы праблемы.

***— У пракурора цягам усяго трохгадзіннага разбору справы не ўзнікла ніводнага пытання ні да адказчыка, ні да адваката. Ён проста ў канцы пасяджэння зачытаў падрыхтаванае загадзя рашэнне аб ліквідацыі СБП. У прысутных склалася ўражанне, што прысуд быў вынесены раней і зусім не ў Вярхоўным Судзе.***

— Не магу гэтага сцвярджаць, але менавіта так палічыла большасць прысутных у зале суда. Той факт, што за апошні час у Беларусі было ліквідавана больш за сто грамадскіх арганізацый, як кажуць, гаворыць сам за сябе. Відаць, недзе ёсць спіс арганізацый, з якімі варта «разабрацца», і лёс гэтых арганізацый прадвызначаны. Што праўды нам не дамагчыся, было зразумела з першых крокаў. Але мы вырашылі прайсці гэты шлях да канца, каб потым не шкадаваць, што мы маглі адстаяць сваё права на існаванне і далейшую працу, але не зрабілі таго.

***— Аднойчы Саюз беларускіх пісьменнікаў улада ўжо спрабавала ліквідаваць — у 2006 годзе. Тады арганізацыю ўдалося адстаяць. І больш як 14 гадоў СБП дзейнічаў. Як ты лічыш, чым у 2021 годзе ён стаў замінаць уладзе? Ды так замінаць, што давялося яго ліквідаваць?***

— Так, у 2006 годзе, расчышчаючы глебу пад новаствораны прыўладны Саюз пісьменнікаў Беларусі, Міністэрства юстыцыі спрабавала ліквідаваць наш Саюз. І тады прычыны былі надуманыя — настолькі, што суд не прыслухаўся да Мінюста і нас апраўдаў. Тады яшчэ ў краіне захоўваліся рэшткі хоць нейкай законнасці і была хоць нейкая незалежнасць судовых органаў. На той суд, памятаю, прыйшлі ўсе тагачасныя народныя пісьменнікі (сёння, на жаль, іх ужо няма побач з намі), прыйшлі амбасадары еўрапейскіх краін (цяпер ім забаронена ўдзельнічаць у судах). І разам мы адстаялі наша права на існаванне...

***— Але ўсё ж чым перашкаджала ўладзе найстарэйшая творчая арганізацыя, заснаваная яшчэ ў 1934 годзе пры ўдзеле Янкі Купалы і Якуба Коласа?***

— Відаць, ужо адным сваім існаваннем... Заўважу, што пісьменнікам ва ўсе часы і ва ўсіх дзяржавах дазвалялася крыху больш, чым іншым. Яны маглі крытыкаваць тое, што ім не падабалася, мець сваю думку, адрозную ад прыўладнай. Ва ўсе гады, нават у самыя змрочныя, былі ў колішнім СССР іншадумцы. Дзяржава змагалася з імі, але не з Саюзамі — пісьменнікаў, мастакоў, творцаў увогуле. Ні Сталін, ні Брэжнеў, ні Андропаў не закрылі Саюз пісьменнікаў, і толькі сённяшняя беларуская ўлада зрабіла гэта.

Працяг на стар. 2 »

# Ніл Гілевіч — творца ўніверсальны



Васіль ЖУКОВІЧ

**30 верасня Нілу Гілевічу магло б споўніцца 90 гадоў...**

Ніл Сымонавіч — не проста яскравая, адметная постаць нацыянальнае літаратуры, культуры, навукі, а постаць легендарная. Народны паэт Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, кавалер ордэна Кірылы і Мяфодзія, прафесар, Заслужаны дзеяч навукі Беларусі... Паэт, празаік, драматург, публіцыст, літаратуразнаўца, перакладчык, фалькларыст.

Вялікая чытацкая аўдыторыя не магла не заўважаць: наш знакаміты класік надзелены ўніверсальным талентам. Усе віды літаратуры і ўсе жанры яму былі падуладныя. Найбольш поўна і разнастайна праявіў сябе Ніл Сымонавіч у цэху паэзіі – тут ён майстра на ўсе рукі: паэтлірык, паэт-публіцыст, паэт-гумарыст і сатырык, паэт-песеннік, аўтар рамана ў вершах «Родныя дзеці», арыгінальнага маленькага лірычнага рамана «...І плямы на табе няма», аўтар унікальнага «Сказу пра Лысую гару», шэрагу кніжак для дзяцей... Які дзівосны паэтычны дыяпазон!

Звяртае на сябе ўвагу ягонае ўменне выказаць сябе, свае пачуцці, думкі, назіранні ў самых розных вершаваных формах, уласцівых найперш еўрапейскай паэзіі. Няхай у сучаснай беларускай літаратуры ўжо даўно не з'яўляюцца навінкамі вянкі вянкоў санетаў, ды ім дарогу праклаў у гісторыі нашай літаратуры вянок санетаў «Нарач» (1964), створаны Нілам Гілевічам. Выбітны паэт аблюбаваў яшчэ адну класічную форму верша, і ў выніку з'явілася кніга «Актавы» (1976). І на мінімальнай плошчы Майстру ўдавалася напоўніцу выказаць глыбіню пачуццяў і думак, данесці да чытача свае запаветнае, што засведчыў яшчэ адзін яго зборнік васьмірадкоўяў «Святлынь» (1984). Дасканалае валоданне размаітымі вершаванымі формамі асацыюецца з майстэрствам Максіма Багдановіча.

У Ніла Гілевіча дужа цікавыя, багатыя зместам пры дасканалай форме і сюжэтныя вершы, вершаваныя апавяданні, праўдзівая проза, драматургія, эсэ, бездакорныя пераклады, узрушальныя прадмовы да выбраных твораў нашых класікаў. Нельга не заўважыць яго вялікай прыхільнасці да вуснай народнай творчасці. Ён уклаў і адрэдагаваў цэлыя тамы беларускага фальклёру, стварыў, апроч таго, кнігі пра паэтыку беларускай народнай лірыкі ды беларускіх загадак.

Але найбольш уражвае і радуе тое, што ён цягам усёй сваёй творчасці выступаў як няўхільны і паслядоўны патрыёт нашай мілай Бацькаўшчыны — за родную мову, культуру, за адраджэнне нацыянальнае свядомасці, супраць нацыянальнага нігілізму. Мне, яго сучасніку, прыемна знайсці і ў залатым фондзе каласальнай духоўнай культуры чыста гілевічаўскія красу лірыкі, моц публіцыстыкі, дасціпнасць гумару, сакрушальную сілу сарказму, багаты ўзор эпічнага палатна, кампетэнтнае слова пра паэтычную і спеўную спадчыну беларусаў, пераствораныя на матчынай мове мастацкія ўзоры знаных замежных твораў.

Яшчэ ў 1966 годзе я з радасцю чытаў простыя і пранікнёныя яго радкі:

*Край мой беларускі, край!*
*Дай ты мне паслухаць, дай!*
*Як на лад пявучы*
*Старажытнай мовы*
*Тут гамоняць пушчы,*
*Там шумяць дубровы, —*
*Дай жа мне паслухаць, дай!*

Тады ж усхвалявалі яшчэ больш праніклівыя словы заключнага чатырохрадкоўя верша «Не баюся, што мой век не вечны...»:

*А мацней за ўсё я пашкадую*
*Перад тым, як свет пакінуць весні,*
*Што ўжо больш ніколі не пачую*
*Нашай роднай беларускай песні.*

Але маё чытацкае знаёмства з паэзіяй Ніла Гілевіча пачалося нашмат раней — калі я толькі паступіў у Берасці ў педагагічны інстытут. У вольны час хадзіў па кнігарнях, набываў літаральна ўсе зборнікі беларускіх паэтаў. І вось займеў кніжку «Прадвесне ідзе па зямлі» (1959). Яго (другую па ліку) кніжку. Мне не забыць, як жа ўскалыхнула яна мне душу вершам «Маці»...

*Я гляджу ў яе вочы,*
*Што свяцяцца шчасцем,*
*Гладжу рукі сухія,*
*Прапахлыя зеллем,*
*І хілюся да сэрца...*
*А трэба б упасці*
*Перад ёю — нядужай, сівой —*
*На калені...*

Паэт гэтак прачула распавядае пра сустрэчу з матуляю-сялянкаю ў родным двары, у сваёй вясковай хаце, куды ён, відаць, прыехаў з горада, з пяшчотаю гаворыць пра яе, вечна стомленую ў вірах бясконцае працы, звяртаецца (ад імя не толькі свайго — і ўсіх братоў, сёстраў) да маміных вачэй: «Вы над намі вясёлымі зоркамі ззялі», да вачэй, якія, калі нават «у нясцерпнай дрымоце зліпаліся», «усміхаліся нам, забаўлялі», звяртаецца да матчыных рук, якія аж нылі ўвечары, «спяваючы нас перад сном галубіным» (я не ведаў тады, што паэт рос у вялікай сям'і, у якой было дзесяць дзяцей, двое з якіх памерлі малымі), звяртаецца да сэрца маці:

*Наш боль быў тваім,*
*Не іначай,*
*Сорам наш*
*Ты насіла вялізарным горам,*
*Кропля ж кожная*
*Радасці светлай дзіцячай*
*Напаўняла цябе,*
*Разлівалася морам...*

Гэтыя словы мною ўспрымаліся так, быццам яны — пра маю матулю, якую страціў юнаком, і таму яны, асабліва заключныя радкі пра тое, як позна мы, дзеці, «няўдзячнасць сваю разумець пачынаем», абуджалі ў душы шчымлівае пачуццё шкадавання. Невыпадкова кампазітар Павел Яроменка стварыў з верша цудоўную песню. Дарэчы, на вершы Ніла Гілевіча напісана мноства песняў вядучымі кампазітарамі: У. Буднікам, Я. Глебавым, Э. Зарыцкім, Л. Захлеўным, І. Лучанком, Э. Ханком ды іншымі. Я быў сведкам аншлагу ў Белдзяржфілармоніі, дзе цягам усёй вечарыны гучалі такія песні, а пасля выступаў улюбёнец публікі Ніл Гілевіч. Паломніцтва нагадвала і вечарына (з яго ўдзелам) у Доме літаратара, праведзеная паэтычным тэатрам «Зьніч» на чале з Галінаю Дзягілевай.

Як чытач і як літаратар я з добрым хваляваннем разгортваў кожную новую кнігу Майстра: «Неспакой», «Бальшак», «Перазовы», «А дзе ж тая крынічанька», «У добрай згодзе», «Родныя дзеці» і многія іншыя. На іх у друку з'явілася шмат выдатных рэцэнзій такіх відушчых літаратараў, як У. Калеснік, Р. Бярозкін, А. Вярцінскі, М. Ермаловіч, Н. Мацяш, П. Макаль. Можна не сумнявацца: наперадзе і грунтоўныя даследаванні творчасці Ніла Гілевіча, ёмістыя манаграфіі, жыццяпіс народнага паэта, вучонага, фалькларыста, асветніка, грамадскага і дзяржаўнага дзеяча.

У Ніла Гілевіча ўнушальная колькасць (больш за сто) выдадзеных кніг. Паспяхова прайшла і справа з выданнем 23-х тамоў выбраных твораў. Выбранае — гэта, вядома, частка ўсяго, што падараваў апостал духу свайму народу амаль за 60 гадоў актыўнай творчасці. Але не ў колькасці здзейсненага сапраўдная заслуга аўтара, а ў красе і сіле яго мастацкага слова, у тым, наколькі дзейсна служыць ягонае слова чалавеку, Бацькаўшчыне. Кнігі Ніла Гілевіча маюць невычэрпныя выхаваўчыя магчымасці, трывалы патэнцыял. Відаць, яны будуць цікавыя і карысныя і з цягам часу — для новых і новых генерацый.

Найбольш відавочная выхаваўчая роля вершаў для дзяцей. Здымаю з палічкі адзін з дзіцячых зборнікаў паэта — «Калі рана ўстанеш», разгортваю. На 13-й старонцы чытаю пра шпака:

*Ён цяжкі шлях пераадолеў,*
*Пакуль вярнуўся ў родны край.*
......................................
*Смяецца сонца. Дзень прыгожы.*
*А шпак ля доміка свайго*
*Сядзіць і кліча ўсіх прахожых*
*Паслухаць песеньку яго.*

Шпак спяваў у родным раздоллі, на волі. А вось злоўлены хлопчыкам конік (верш «Конік у палоне») спяваць не захацеў — і, шкрабаючы па дне шклянкі, ён нібы з крыўдаю кажа:

*Сумна мне тут без сяброў*
*Аднаму ў палоне.*
*Адпусці мяне дамоў —*
*У прастор зялёны.*
*І прыходзь тады гуляць*
*На лужок мурожны:*
*Буду я табе спяваць*
*Дзень і вечар кожны.*

Вось вам і выхаванне дзяцей: і патрыятычнае, і маральнае, і працоўнае, і экалагічнае, а найперш — эстэтычнае.

У заключэнне скажу: у Ніла Гілевіча ёсць што пачытаць чалавеку любога ўзросту, бо ён — творца ўніверсальны.

# Барыс ПЯТРОВІЧ: «Ні Сталін, ні Брэжнеў, ні Андропаў не закрылі Саюз пісьменнікаў, і толькі беларуская ўлада зрабіла гэта»

**« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1**

***— СБП праводзіў вялікую асветніцкую і культурніцкую працу (у тым ліку ў рэгіёнах), уручаў літаратурныя прэміі, ладзіў фестывалі. З ліквідацыяй Саюза чаго ў нашай краіне не стане?***

— Нічога асабліва не зменіцца. Бо пісьменнікі засталіся. Яны і надалей будуць пісаць і друкаваць свае творы. Сёння кожны можа змясціць напісанае ў інтэрнэце, і чытачоў у яго будзе больш, чым наклад кнігі. Нас не трэба вучыць, за апошнія дваццаць гадоў мы шмат чаму навучыліся з «дапамогай» дзяржавы. Па-ранейшаму будуць арганізоўвацца літаратурныя вечарыны, праводзіцца фестывалі, уручацца прэміі... Мы раней рабілі гэта на грамадскіх пачатках і будзем працягваць. Толькі ўжо не ад імя СБП, а прыватна. Як у свой час рабілі Купала і Колас, Ластоўскі і браты Луцкевічы. Вядома, не хацелася б у суверэннай дзяржаве ў XXI стагоддзі вяртацца ў дарэвалюцыйныя часы. Але што зробіш, калі такі наш лёс, калі такі лёс беларускага народа: ісці да сябе, да свайго — да Беларусі (як сказаў незабыўны Ніл Гілевіч) — праз штучныя перашкоды, якіх не павінна было б быць.

***— Відаць, прыватна арганізоўваць нейкія мерапрыемствы будзе ўсё ж значна цяжэй...***

— А нам і раней не было лёгка. Ёсць жа прыклады працы арганізацый, ліквідаваных раней. Скажам, беларускі ПЭН-цэнтр на чале са Святланай Алексіевіч і Таццянай Нядбай працягвае свае праекты, часам яшчэ ў большым аб'ёме, чым раней. Практычна ад усіх арганізацый, якія дзяржава знішчае, мы чуем, што яны будуць працягваць працаваць, толькі ў іншым фармаце. Чыноўнікі ніяк не хочуць зразумець, што, па вялікім рахунку, для нас нічога не змяняецца, яны не вераць, што людзі могуць працаваць не за грошы, а за ідэю. Яны дарэмна лічаць, што, пазбавіўшы нас афіцыйных месцаў працы, прымусяць нас замоўкнуць, зашыцца па кутах. Нам няма чаго губляць. Мы не мелі ніякіх выгод. З усіх саступак дзяржавы мы мелі толькі адну: сябры нашага Саюза не лічыліся так званымі дармаедамі. Што ж, цяпер некалькі дзясяткаў пісьменнікаў, у тым ліку і я, займеюць гэтае «гордае» званне.

***— Адвакат СБП у сваім выступленні ў судзе параўнала ліквідацыю арганізацыі з вышэйшай мерай — расстрэлам. На што прадстаўнік Мінюста запярэчыў: расстраляны ўваскрэснуць не можа, а пісьменнікі могуць сабрацца і заснаваць новую арганізацыю. Ці збіраецца кіраўніцтва СБП штосьці рабіць у гэтым кірунку?***

— Думаю, не адразу, але з цягам часу такое пытанне ўзнікне. І няхай не ўсе цяперашнія нашы 470 сяброў, а 150 ці 200 з іх аб'яднаюцца і адновяць Саюз. Але не пры цяперашняй уладзе. Не для таго яна ліквідоўвала Саюз, каб дазволіць аднавіць яго. Але, калі зменіцца сітуацыя, Саюз пісьменнікаў, у які ўваходзілі Быкаў і Адамовіч, Гілевіч і Мележ, Караткевіч і Брыль, Шамякін і Чыгрынаў, Барадулін і Бураўкін і яшчэ дзясяткі класікаў нашай літаратуры, чые творы складаюць залаты фонд нашай культуры, абавязкова будзе адноўлены.

***— На пасяджэнні ў Вярхоўным судзе прысутнічалі каля двух дзясяткаў пісьменнікаў. Шмат хто з сяброў Саюза знаходзіцца ўжо ў вельмі паважным веку і чакаў судовага рашэння дома. Скажам, Анатоль Вярцінскі, Віктар Казько, Васіль Зуёнак... Калі б так сталася, што ўсе 470 чальцоў СБП пасля вынясення прысуду сабраліся ў адным месцы, што б ты ім сказаў?***

— Сказаў бы, каб берaглі сваё здароўе і не дужа шкадавалі і перажывалі з-за таго, што дзяржава ліквідавала наш СБП. Бо не Саюз нас аб'ядноўваў, а любімая справа — літаратура. І права пісаць у нас ніхто ніколі не адыме. Як і права жыць і працаваць дзеля роднай Беларусі і набліжаць той дзень, калі наша краіна стане сапраўды дэмакратычнай і вольнай.

# Рэцэпт напою багоў

**«Літаратурная Беларусь» працягвае друкаваць фрагменты гутарак Юрася ЗАЛОСКІ з Народным пісьменнікам Беларусі Васілём БЫКАВЫМ, запісаныя ва ўжо далёкім 1995 годзе, — на гэты раз пра нацыянальную адметнасць творчасці, палітыку, духоўную свабоду і пісьменніцкую місію.**

***— Сёння многія скептычна ацэньваюць савецкую літаратуру, яе феномен. Скажыце, калі шчыра, — проста па-чалавечы Вы задаволены тым, што ўдалося зрабіць у літаратуры асабіста Вам?***

— Вядома, не задаволены.

Мабыць, дужа шмат творчага часу патраціў на банальныя, як цяпер пагляджу, рэчы: вайсковы гераізм, які быў не болей чым часткай (і не найбольшай) вялікай вайны, на яе пакутнікаў і яе вялікае бязладдзе. А між тым ёсць яшчэ не меней драматычны перыяд нашай навейшай гісторыі — 30-я гады, як след не распрацаваныя нашай літаратурай (хіба адзін Мележ). Але час упушчаны, і цяпер гэта ўжо — Атлантыда, што ўсё болей хаваецца ў нябыт. Хто яе падніме на паверхню памяці? Старэйшых пісьменнікаў ужо няма, адны адышлі з гэтага свету, іншыя свой талент аддалі іншым праблемам: ачмурэнню класавай бараць бы, звыродлівым фантомам соцспаборніцтва, прапагандзе партыйных догмаў, якія шмат каго тады захаплялі. Для маладзейшых 30-я гады — тэрра інкогніта, наўрад ці яны ў ёй як след разбяруцца, хоць і глядзяць на сваіх папярэднікаў паблажліва, звысока. Мабыць, некаторым здаецца, што яўнае калабаранцтва старэйшых ішло ад невуцтва, светапогляданай абмежаванасці. У той час як усё было болей проста і болей страшна. З тагачасным камуністычным таталітарызмам, паводле слушнай заўвагі Альбэра Камю, можна было або супрацоўнічаць, або змагацца. *Пісьменнікі, як вядома, кепскія змагары. Значыць, што ім заставалася? Адно супрацоўнічаць, калі яны хацелі элементарнага — жыць.*

***— А як справілася са сваёй духоўнай задачай, на Ваш погляд, ваша творчае пакаленне?***

— У творчасці майго пакалення калі не рэалізаваліся цалкам, дык хоць бы ўпершыню праявіліся пэўныя адзнакі адмаўлення, нязгоды з савецкім таталітарызмам. У час хрушчоўскай адлігі паявіліся кнігі, у якіх быў парушаны кананічны прынцып сацрэалізму — барацьба добрага з лепшым. Упершыню ў літаратуры з'явіўся «нядобры» парторг, крыважэрны энкавэдэшнік. Часопіс «Маладосць» надрукаваў аповесць свайго рэдактара Аляксея Кулакоўскага «Дабрасельцы», — можа, першы праўдзівы твор з пасляваеннага жыцця беларускай вёскі. Хоць усё было не проста. Дзяржаўна-партыйны прэс упарта ціснуў мастацтва ў іншы бок — у бок ідэалізацыі таталітарызму…

***— Часам найноўшая крытыка папракае Васіля Быкава савецкасцю. Як Вы да гэтага ставіцеся?***

— Мабыць, у гэтым для мяне мала прыемнага. Хаця збоку лепей відаць. Можа, толькі варта зазначыць, што некалі мае недабразычліўцы-крытыкі адкрыта і тайна лаялі маю антысавецкасць, а цяпер вось іншыя (ды і тыя таксама) — папракаюць савецкасцю.

***— Увогуле, ці пакінуў, на Вашу думку, сацрэалізм як метад вялікія творы мастацтва, літаратуры? Калі так, то каго ці што Вы маглі б назваць з гэтага шэрагу?***

— Вялікія творы былі ў розныя часы, як і вялікія аўтары. Можна па-рознаму ставіцца да Міхаіла Шолахава і яго даволі агіднага канфармізму ды яшчэ некаторых маласімпатычных рысаў ягонага характару, але ўсё ж «Ціхі Дон» — сапраўды вялікая кніга. Ці надта стасуецца да гэтага аўтара які літаратурны метад (у тым ліку і сацрэалізм), я не ўпэўнены.

***— Ваша творчасць у 60-я, 70-я гады складвалася такім чынам, што чытачы ўспрымалі Вас найперш як пісьменніка — прадстаўніка франтавога пакалення, у сціжме вядомых савецкіх баталістаў: В. Някрасава, Р. Бакланава, Ю. Бондарава і іншых.* **Нацыянальная** *прыналежнасць Васіля Быкава як бы не ўлічвалася: пісьменнік станавіўся вядомым свету праз пераклады яго твораў не з мовы арыгінала, г.зн. з беларускай мовы, а — з мовы-пасрэдніцы. Такім чынам, фармаваўся вобраз расійскага пісьменніка Быкава… Няцяжка здагадацца, што для пісьменніка вашага кшталту гэткая неадпаведнасць не магла застацца неўсвядомленай і, пэўна, не магла не спарадзіць нялёгкую экзістэнцыйную праблему: як быць — ці канчаткова станавіцца «рускім» пісьменнікам (як, да прыкладу, Ч. Айтматаў), ці —сцвердзіць у сусветнай літаратуры* **сваю беларускую** *існасць. Ці перажылі Вы перыяд такога вагання; ці не шкадуеце цяпер, што пэўны, досыць працяглы час напружана працавалі на ўзмацненне ў першую чаргу ўсё ж такі расійскага літаратурнага поля, а не свайго, беларускага?..***

— Я так мяркую, *што нацыянальную прыналежнасць пісьменніка вызначае перш за ўсё мова ягоных твораў, затым — нацыянальнасць яго персанажаў.* З першага майго апавядання я пішу па-беларуску, вялізная бальшыня маіх персанажаў — людзі Беларусі. Але праўда, што ў свет яны выходзілі з расійскіх выданняў. Тое, аднак, ад мяне не залежала. Яшчэ на пачатку мае творчасці паявіліся цяжкасці з выданнем ў Беларусі (і не толькі ў Беларусі), бо пасля «Мёртвым не баліць» (1965) мае аповесці пра вайну падвергліся астракізму ва ўсёй краіне Саветаў. Становішча стала асабліва


Юрась Залоска

невыносная, як у апарат ЦК КПСС прыйшоў наш зямляк У.Сеўрук. Адзіны часопіс, які тады мяне друкаваў у Маскве, быў «Новый мир» пад рэдакцыяй А.Твардоўскага. Але вялізнаю перашкодай між аўтарам і часопісам стаў моўны бар'ер — узровень перакладаў на расійскую мову не задавальняў рэдакцыю. Аднойчы пасля рэдакцыйнага абмеркавання Твардоўскі прапанаваў, каб пераклад аповесці («Праклятая вышыня») зрабіў сам аўтар. Я мусіў перакладаць. Не памятаю, як ацаніў Твардоўскі тую маю спробу (здаецца, невысока), але аповесць надрукавалі менавіта ў маім перакладзе. З перакладам наступнай («Круглянскі мост») ранейшых праблем не было, мабыць, я больш-менш асвойтаўся ў рамястве самаперакладу. Хаця наўрад ці калі дасягнуў дасканаласці, бо, як некалі заўважыў Іван Бунін, блізкія мовы горш за іншыя паддаюцца перакладу. Тое я адчуў на ўласнае практыцы. Намеру рабіцца расійскім празаікам у мяне не было ніколі, хапіла розуму зразумець, што расійская мова не для мяне, народжаны беларусам беларусам застанецца. Хаця, мушу прызнаць, уплыў на мяне расійскай вайсковай прозы быў даволі моцны. Асабліва як у Маскве паявіліся аповесці аўтараў г.зв. «лейтэнанцкай прозы» — Бакланава, Бондарава, Вераб'ёва, некаторых іншых. Аднак той уплыў, хоць і быў плённы, але стаўся кароткачасовым. У маіх партызанскіх аповесцях ён сышоў на нішто, тут ужо я працаваў цалкам самастойна і, як хутка прызналі расійскія крытыкі дэмакратычнага накірунку, даволі плённа. Здаецца, сапраўды тут ужо мае творы пачалі уплываць на пэўную (не горшую) частку расійскай вайсковай прозы. Мабыць, у тым ёсць нейкая заслуга Быкава як беларускага пісьменніка, творы якога перакладзены на болей чым 50 моў свету. Хоць бы і з расійскіх выданняў. Але што з расійскіх, тут я не вінаваты, хай бы перакладалі з беларускіх. Ды з беларускае перакладчыкаў не было нідзе, як не было выдаўцоў (апроч хіба беларускай дыяспары), ніхто у свеце нашае мовы не ведаў. Памятаю маё засмучэнне, калі, будучы ў Парыжы, даведаўся, што ў Сарбоне ёсць факультэт усходніх моваў, дзе вывучаюцца ўсе ўсходне-славянскія мовы, апроч беларускай. У чым тут прычына? Ці не ў спрадвечнай падлегласці, славутай талерантнасці і рахманасці нацыі, якая толькі напрыканцы XX стагоддзя заявіла аб памкненні да дзяржаўнасці і тут жа спалохана папярхнулася — найперш каб не пакрыўдзіць суседзяў.

***— Ці схільны Вы лічыць, што сёння рэалізм як мастацкі метад у сусветнай літаратуры ўвогуле страчвае сваю мастацкую каштоўнасць — з прычыны анігіляцыі самога жыцця, знікнення непасрэднасці чалавечых перажыванняў і паводзін, распаду традыцыйнай біблейскай маралі, замены ўчынкаў на фальшывыя інфармацыйныя ўмоўнасці? Ці не гатовы прызнаць, што зараз надыходзіць пара пісьменнікаў-інтэлектуалаў, калі заўгодна — філасофаў, а не мастакоў слова?***

— Так мяркую, што рэалізм аджывае сваё найперш у сытых, забяспечаных грамадствах, дзе ён як напрамак мастацтва ужо адпрацаваў уласныя магчымасці. І так бы мовіць, надакучыў, «прыеўся» спажывецкаму грамадству, якое, падпарадкуючыся зменлівым законам рынку, прагне навенькага, востранькага, незвычайнага. У грамадствах жа, якіх раздзіраюць сацыяльныя праблемы, якія пакутуюць без элементарных грамадзянскіх свабод, нацыянальна не рэалізаваных, у такіх грамадствах яшчэ доўга будзе існаваць патрэба ў звычайным рэалізме, з яго чэрствай праўдай жыцця, адлюстраванай у формах самога жыцця. Тое меркаванне, вядома, не выключае памкнення пэўнай (элітнай) часткі грамадства да мастацтва іншага кшталту з ухілам у бок формы, эпатажных прыёмаў творчасці, асабліва папулярных на Захадзе.

***— Дарэчы, у Вас практычна няма твораў пра сучаснасць (апроч, бадай, апавяданняў «Бедныя людзі», «Фрузына»). Вы што, інтуітыўна адчувалі немастацкасць часу і свядома адмовіліся выказвацца пра яго мастацкім словам?***

— Для мяне час так званага застою, як бы ён ні вызначаўся эканамічна, у экзістэнцыяльных стасунках, сапраўды здаваўся немастацкім. Рэалістычнае мастацтва — выяўленчае ці літаратура — усё ж вымагае пэўнага элементу стыхійнасці, неарганізаванасці, якіх не было ў нашым дашчэнту зарганізаваным, рэгламентаваным бальшавіцкім мінулым. На вайне тае стыхійнасці было куды болей, асабліва ў партызанскай вайне, на акупаванай тэрыторыі, і туды інстынктыўна памкнуліся мае літаратурна-эстэтычныя сімпатыі.

***— Відавочна, што ў процістаўленні «жыццё — мастацтва» Вы аддаеце прыярытэт жыццю. Калі так, то ўсё прыгожае, усе класічныя шэдэўры літаратуры, жывапісу і г.д. як бы народжаны самім жыццём. Дык вось: ці не можа ў прынцыпе стацца так, што мастацтва збанкрутуе канчаткова, адпрэчанае самім жыццём?***

— Адказ на гэтае пытанне вынікае з папярэдніх. Вядома, мастацтва нараджаецца з пэўных праяваў жыцця (найбольш рэалістычнае мастацтва), але таксама і з унутраных, душэўных імпульсаў, сігналаў аўтарскай падсвядомасці. Суадносіны таго і другога ў кожным творы кожнага аўтара дужа няпэўныя. Бываюць творы, нібы само жыццё, «спыненае імгненне»; бываюць створаныя выключна з ірацыянальных элементаў, дзе ад рэальнасці, бадай, нічога няма. Мабыць, каштоўнасць тых ды іншых вызначаецца ўсё ж не так спосабам адлюстравання, як характарам творцы, сутнасцю яго часам выразнага, а часам загадкавага таленту. У культурным грамадстве сапраўднае мастацтва (не кітч) па сваёй сіле ўздзеяння можа супернічаць з натуральнымі праявамі жыцця. Уплывы мастацкіх вобразаў на душу чалавека, аднак, дужа невыразныя, апасродкаваныя, залежныя ад псіхічнай канстытуцыі асобы, узроўню яе культурнасці, а таксама ад меры мастацкай умоўнасці твору. Тая ўмоўнасць бывае нармальнай, агульнапрынятай, бывае празмернай і цяжкой для ўспрыняцця, бывае недастатковай і з тае прычыны таксама не кранае спажыўца прыгожага. Іншае ж аказвае зусім адваротнае ўражанне, чым на тое разлічваў аўтар. Яшчэ Арыстоцель заўважыў пэўны парадокс успрыняцця мастацтва, калі пісаў, што «мы з задавальненнем глядзім на выяву тага, на што ў рэчаіснасці глядзець непрыемна». Чаму так — не зусім зразумела. Але, мабыць, у тым нешта адчувалі марксісты, якія, не маючы магчымасці выкараніць «негатыў» з рэальнага жыцця, заўзята выкаранялі яго з мастацтва. Сучасная рэчаіснасць, вядома, тоіць у сабе безліч самага рознага, у тым ліку і драматычна-трагедыйнага, заўжды каштоўнага для мастацтва. Але праблема, мабыць, у тым, што да пары гэта — сырэц, паўфабрыкат, сусла, з якога яшчэ трэба вырабіць прадукт. А тое патрабуе часу. Выспее, перабродзіць у дзяжы мастакоўскай свядомасці (асабліва ў падсвядомасці), і вінар-аўтар зробіць з яго напой багоў. Але не цяпер, не ў крызісны час. У крызісны час майстра заняты не так пошукам метафар, як пошукам хлеба. Найбольш чорнага хлеба праўды.

Працяг на стар. 4 »

# Рэцэпт напою багоў

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 3



Фота Сяргея Шапрана

***— …І тады мастак — напрыклад, Васіль Быкаў — замяняе пісьменніцкі стол на публіцыстычную трыбуну. Ці азначае гэта, што ў жыцці мастака рана ці позна можа наспець момант, калі палітычная і грамадская дзейнасць стаецца як бы натуральным працягам яго мастацкай, эстэтычнай творчасці?***

— Я ніколі не быў палітыкам і не імкнуўся ні ў якую палітыку. І калі я цяпер час ад часу наважваюся нешта сказаць, дык толькі з тае прычыны, што цяжка змоўчаць. Мабыць, гэта ўжо недахоп майго характару — нязручнага, няздатнага, невыгоднага для сябе характару. Зайздрошчу некаторым таленавітым старэйшым, якія ўмеюць мудра маўчаць. Але што зробіш — сябе не пераробіш. *Усё жыццё я імкнуўся да свабоды — у тым ліку і да свабоды асабістай, свабоды распарадзіцца ўласным лёсам, чаго, зрэшты, мне ніколі і не ўдавалася.* Ды і ці магло ўдацца? Ці можна ажыццявіць якое з элементарных чалавечых памкненняў у несвабодным і бяспраўным грамадстве?

***— У апошнія гады Вы адкрыта выступаеце як апалагет хрысціянскіх каштоўнасцей і хрысціянскай веры. Ці былі Вашыя адносіны да рэлігіі (Бога) ўвесь час нязменнымі, роўнымі; якія падзеі, магчыма, асабліва паўплывалі на фармаванне вашага, як цяпер прынята гаварыць, асабістага містыцызму? (У гэтым сэнсе цікава пачуць Вашу ацэнку вайны як не толькі «вайны», але і як памежнай падзеі быцця, удзельнікі якой як бы праходзяць своеасаблівую містэрыю «прычашчэння смерцю», г.зн. здабываюць пэўны духоўны гарт…)***

— Безумоўна, у наш складаны, бязбожны час традыцыйныя хрысціянскія каштоўнасці застаюцца галоўным духоўным апірышчам нацыі. Тое было пэўна ў гады татальнага вынішчэння рэлігіі, нездарма бальшавікі з першых дзён свайго панавання пастралялі царкоўных іерархаў, пабурылі цэрквы — яны не трывалі духоўнай канкурэнцыі. Дэмакратычна арыентаваныя і проста сумленныя грамадзяне заўжды спантанна адчувалі згубу атэістычнай бездухоўнасці і неяк спрабавалі процістаяць ёй. На пачатку перабудовы, калі з'явілася такая магчымасць, я ў «Комсомольской правде» палемізаваў з заўзятымі маскоўскімі прафесарамі-атэістамі. Але затым мой заступніцкі пафас знізіўся, калі новыя ўлады ў адносінах да царквы цынічна змянілі бізун на пернік. Вядома, ад камуністаў усяго можна было чакаць, але здзіўляла тая «хэнць», разлік або наіўная легкавернасць, з якой царква (найбольш праваслаўная) кінулася ў камуністычныя абдымкі, спрэс ператвараючыся ў банальныя «рычагі» ўлады. Мабыць, сапраўды каштоўнасць рэлігіі не ў царкве, не ў яе зменлівай духоўнай палітыцы, а найперш у фундаментальнай сутнасці яе маралі, якую два тысячагоддзі нясе з сабой хрысціянства, Стары і Новы Запавет, першакрыніцы хрысціянства. У гэтым сэнсе на памяці прыклад Льва Талстога, які, як вядома, займеўшы канфлікт з царквой, узяўся за вывучэнне грэцкай мовы, каб без перакладу спасцігнуць першасны сэнс запаветаў Хрыста і святых апосталаў. Але гэта Талстой. А як народу, сем дзясяткаў гадоў адлучанаму ад веры, зноў далучыцца да яе, пераадолець духоўную разарванасць, спасцігнуць боскую сутнасць без карыслівых адвакатаў рэлігіі? Беларусам намагчыся на тое і яшчэ цяжэй — гісторыя не дала ім канкрэтна-ўласнай рэлігіі, кінула на раздзёр між дзвюма не надта прыязнымі канфесіямі. Уніяцтва, якое магло б стаць рэлігіяй беларусаў, амаль задушана, заціснута з двух бакоў магутнымі канфесіямі і ніяк не можа адрадзіцца. Усё тое балюча адбіваецца на духоўным здароўі народа.

Здаецца мне, вайна да тае праблемы не мае прамых адносінаў, бо на вайне ўсё вырашала грубая сіла, містыцы там не было месца. Гэта вернікам у акопах Першай сусветнай вайны бачыліся розныя містычныя ўяўленні, як правіла з добрым, шчаслівым знакам. Атэістам жа на Другой сусветнай не бачылася нічога, апроч дужа рэальнай (без містыкі), заземленай (літаральна і фігуральна) пагібелі. Што б гэта значыла? Але, мабыць, зразумела, што.

***— Наколькі вядома з Вашых інтэрв'ю, Вы падзяляеце той пункт гледжання на чалавечую гісторыю, паводле каторага «чалавецтва паступова разумнее», г.зн. што развіццё чалавецтва ў цэлым адбываецца нібыта ў кірунку прагрэсу. Але апошняе стагоддзе пакідае па сабе і найжахлівыя сведчанні маштабнага самагенацыду «разумнага» чалавецтва: дзве сусветныя вайны з мільёнамі ахвяр, пастаянны лязгат зброі, крывавыя канфлікты, у тым ліку і апошні, чачэнскі... Гэта — пры тым высокім розуме, якога чалавецтва дасюль яшчэ не мела. Можа, слушна было б разглядаць вайну і ваяўнічасць як усё-такі фатальнае спараджэнне гульні бессвядомых сіл у калектыўным арганізме чалавецтва, як пэўнае выйсце для той грубай энергіі інстынктаў? Можа, след прызнаць за вайной метафізічную, ірацыянальную прыроду і, адпаведна, статус увесьчаснага спадарожніка чалавецтва праз усю яго гісторыю?.. Г.зн. пагадзіцца з тым, што чалавецтва ўсё-такі не разумнее?***

— Мабыць, тое разуменне адбываецца не раўналегла: калі адны народы даўно «паразумнелі» і па-людску ладзяць сваё людское жыццё, дык іншыя не толькі не спяшаюцца рабіць тое, а час ад часу дурнеюць. Помніцца амаль роспачны крык у тэлевізары аднаго з самых сумленных расійскіх інтэлектуалаў: «Россия, ты одурела!» (гэта калі Расея прагаласавала за Жырыноўскага). У нас жа, у Беларусі, не ведаю, на жаль ці на шчасце, такога вокрыку не пачуеш — не тыя інтэлектуалы, ці не тое тэлебачанне. Нават пры магчымасці свабоднага (адносна, вядома) выбару выбіраюць не лепшае, і не таму што не хочуць сабе дабра, а таму што дагэтуль не навучыліся адрозніваць кепскае ад горшага. Бо не вучацца ні ў Бога, ні ў д'ябла, ні ў разумных суседзяў. Мабыць, лічаць, што даволі марксісцкай навукі, засвоенай ва універсітэтах марксізму-ленінізму, партшколах ды на марксісцкіх кафедрах ВНУ. Часам здаецца, што такая навука — горш за цемрашальства, бо з большым поспехам замаскавана пад навуковасць і таму робіць больш шкоды. Мабыць, было б лепш, каб тае навукі не было зусім, як і яе вучоных носьбітаў, усіх гэтых дактароў-прафесараў ад марксізму-ленінізму. Тады б людзі кіраваліся спрадвечным жыццёвым інстынктам ды меркаваннямі здаровага сэнсу з яго простымі і выра́знымі законамі, што праз стагоддзі далі нацыі выжыць. Нацыя ж, спакушаная фальшывымі ідэямі, падманутая псеўданавукай, будзе хварэць, аж пакуль не паразумнее і не вызваліцца ад тае ачмурэласці. Пакуль не зразумее элементарную самакаштоўнасць здаровага сэнсу.

***— Напэўна, усе вышэй закранутыя пытанні можна звесці да аднаго, універсальнага: адкуль на зямлі ліха і дзе прычыны зямных бед і радасцяў (мастацтва, літаратуры, грамадскага ўладкавання), — у трансцэндэнтным, г.зн. пад уладаю патойбочных сіл, ці — у самой амбівалентнай існасці гэтага свету і чалавека? Прынамсі, наколькі схільны Вы пераносіць адказнасць за тое, што робіцца сёння на Зямлі (і ў Беларусі), у сферу патойбочнага?***

— У чым тыя прычыны — пэўна не ведае ніхто. Як не ведалі таго тысячу і дзве тысячы гадоў таму. Хоць яйкагаловым мінулага заўсёды здавалася, што яны ведаюць усё. Па крайняй меры, заўсёды і ўсё на зямлі і ў небе знаходзіла нейкае тлумачэнне. Але мінаў час, і рабілася відавочнай уся наіўнасць, «антынавуковасць» таго тлумачэння. І тады з'явілася агнастычнае разуменне непазнавальнасці свету. Кант і Спенсер былі не дурнейшыя за папярэднікаў, калі ўсумніліся ў іхніх поглядах. А пасля усумніліся і ў вызначэннях саміх агностыкаў, што даказалі марнасць ведаў пра свет. І пра чалавека таксама. На маю думку, чалавецтва ніколі не спазнае сябе па дзвюх прычынах: па-першае, *чалавек — зменлівае стварэнне, і спазнаць яго ў стане зменлівасці наўрад ці каму ўдасца.* Па-другое, калі спазнаць да канца, дык тым спыніць сам працэс пазнання, а гэта ўжо ці не канец гісторыі? Хаця, як вызначыў Ф.Хукаяма, канец гісторыі азначае толькі тое, што людзі пачнуць яе зноў, так бы мовіць, чарговым заходам. І так бясконца. У тым, можа, і ёсць не разгаданая таямніца існавання, вялікі ягоны сэнс.

***— Любы прызнаны пісьменнік рана ці позна падпадае пад выпрабаванне вядомасцю і мусіць асэнсоўваць свой мастакоўскі кшталт, сваю місію. Ці гатовы Вы, Васіль Уладзіміравіч, прызнаць за мастаком яго вышэйшую, надзямную місію, яго выключны, дэманічны кшталт?***

— Здаецца мне, няма тут ніякай «надзямной місіі». Пісьменніцтва зрабілася даволі масавай прафесіяй, рамяством для здабычы хлеба надзённага, заняткам, дзе, як і ўсюды, даволі фальшу, эгаістычнага разліку. І ніякага дэманізму, асабліва ў наш рацыянальны, спазнела-рынкавы час. Раней сярод іншых талент усё ж вылучаўся пэўнай маральнасцю, прычыненасцю да народнага клопату; мастацкае слова нярэдка было раўназначна ўчынку, таленты ўважаліся за рэдкасць, не кажучы ўжо пра геніяльнасць. Але на нашых вачах адбылася дэвальвацыя таленту; усеагульная абавязковая адукаванасць ва ўсіх сэнсах пацясніла маральнасць, ідэалагічная заангажаванасць зрабілася перадумовай усякай творчасці. Апошнім часам на змену ранейшай заангажаванасці ідзе рынкавы прагматызм. Але *мастацкаму таленту ў рынкавы час няма чаго рабіць, тут патрэбны здольнасці іншага кшталту. Геній жа тут проста непатрэбны, чужая істота, якую па-біблейску заўсёды білі каменнем.* Б'юць і цяпер. А то яшчэ запатрабуюць укрыжаваць — тыя ж, дзеля каго ён шчыраваў. Між талентам і народам, як і дзве тысячы год таму, ляжыць неадольная бездань неразумення; талент і геній — быццам істоты з іншай планеты. Хаця паводле азначэння Шапенгаўэра, паміж імі дзвюма таксама амаль супярэчлівая няроўнасць. «Калі талент трапляе ў цэль, у якую звычайныя людзі трапіць не могуць, дык геній трапляе ў цэль, якую звычайныя людзі нават не бачаць». Але калі не бачаць, дык і не разумеюць, а ад неразумення да нянавісці — адзін крок. Адсюль і — распні яго!

***— Ці прызнаеце Вы за мастацтвам права на «манастырскі» спосаб паратунку ва ўмовах крызісу жыцця — права абстрагавання ад знешніх падзей дзеля таго, каб захаваць тое найлепшае, што было ім, мастацтвам, створана і зберажона за сваю гісторыю?***

— Мабыць, настае час, калі менавіта такая магчымасць адна і застаецца. *Калі нельга развіваць культуру, дык важна хоць бы захаваць тое, што напрацавана ранейшымі пакаленнямі, закансерваваць яго (у тым ліку і мову), як кансервуюцца руіны старых замкаў і цэркваў.* Сапраўды, культура падобная да евангельскага зерня і павінна памерці, каб уваскрэснуць зноў, як мудра зазначыў некалі Андрэ Жыд.

# Закутак пекнаты



Фелікс БАТОРЫН

***

*Свечка скінецца на салому —*
*І падпаліць салому свечка.*
*Не расчыняцца дзверы дома,*
*Не адкінецца трунная вечка.*

*Ты — як свечка, яна — як салома,*
*Домам — цэлы вялікі свет.*
*І даўно абаім вядома,*
*Што не след.*

***

*Кайданы ды путы,*
*Ланцугі, драты.*
*Хоць бы дзе закутак*
*Вольнай пекнаты!*

*Толькі ў летуценні...*
*Тут — наадварот:*
*Кратчатыя цені,*
*Сшыты дротам рот.*

***

*Мова — гэта не рэч.*
*І не тавар — мова.*
*Ад мовы сябе адпрэч —*
*Душа для пагосту гатова.*

***

*Сэрца, як лоб, не забрыць.*
*Людскасці ў сэрцы не збрыдзіць!*
*Хочаш кахаць і любіць —*
*Змушаны ненавідзець.*

*Хто быў народжаны кім,*
*Тым той жыве й памірае.*
*Д'ябла ніякі грым*
*Не зробіць анёлам з раю.*

*Анёла ніякі бруд*
*Не зробіць вырадкам пекла.*
*Сабою быць — вялікі труд.*
*Лягчэй ад сябе быць уцеклым.*
*Ды толькі няма куды.*

***

*Ратаванаму — рай,*
*А вольнаму — воля.*
*Ды рай – гэта край,*
*А хочацца болей.*

***

*Я пытаў не аднойчы,*
*Дзе былі мае вочы.*
*Там, дзе й голаў была,*
*Што ад хмелю гула!*

***

*Каля склепу — кураслеп,*
*Пырнік з крапівою.*
*І здаецца, мёртвы склеп —*
*Гэта штосьці жывое.*

*Ды падманваць зрок трава*
*Можа толькі летам.*
*Восень. Вянуць крапіва,*
*Пырнік з кураслепам.*

***

*А. Пашкевічу*

*Кроў мая астывае і броснее —*
*І не варта мяне лячыць.*
*Не дажыць мне, відаць, да восені,*
*Калі час куранят лічыць.*

*І агмень ледзьве-ледзве ку́рыцца,*
*І алей пачынае ялчэць.*
*Будуць яйкі з-пад нашай курыцы*
*На чужой патэльні скварчэць.*

***

*Пуга ўецца ў паветры са свістам,*
*Гімн сабе нада мной пяе.*
*Вельмі хочацца*
*быць аптымістам,*
*Але спіначка не дае.*

# Мы жывем



Змітрок КУЗМЕНКА

***

*Вусцішнымі чорнымі часамі*
*На бясплоднай ад крыві зямлі*
*Сцятымі ад болю галасамі*
*Беларусы ворагаў клялі.*

*Сёння ж — да апрычнікаў апрыкрых*
*На гарачым пераломе дзён*
*Рвецца з горла нестрыманы, хрыплы,*
*Самы страшны жудасны праклён.*

*Тым, хто гвалціць гонар чалавечы,*
*Тым, хто топча годнасць нашу ў бруд,*
*Без віны збівае і калечыць*
*Ды страляць гатовы ў мірны люд.*

*Хто нахабна нам у вочы хлусіць,*
*Хто ў Феміды з воч павязку рве,*
*Хто не дазваляе Беларусі*
*Нават крыкнуць, што яна — жыве...*

*Немач хай не возьме вашы рукі,*
*Не зблядненюць цалкам кашалькі.*
*Хай у твар вам плюнуць вашы ўнукі,*
*І суседзі не дадуць рукі.*

*Хай у вамі спляжанай краіне*
*Вы сабе не знойдзеце спакой.*
*Хай вам свеціць месяц на чужыне*
*У халоднай бессані начной.*

***

***Юлі Чаргінец***

*— Скуль і з якіх вы пачулі балот,*
*Што вы не быдла, а вольны народ?*
*Хто адвучыў вас схіляць голаў моўчкі?*
*Хто, прызнавайся!..*
*— Кастусь Каліноўскі.*

*— Хто падбухторваў ваш дзёрзкі хаўрус*
*Воклічам гучным «Жыве Беларусь!»*
*Сілу будзіць, што стагоддзямі спала?*
*Хто лялькавод у вас?!*
*— Янка Купала.*

*— Крык, што ваш сцяг не фашысцкі зусім,*
*Што і на крэсах усходніх пад ім*
*Йшлі беларусы за вольнасць Радзімы...*
*Чый гэта голас быў?*
*— Танка Максіма.*

*— Хочаце праўды? Дык вось вам яна:*
*Не каштавалі даўно бізуна!*
*Хто бунтаваць вас за праўду заклікаў?*
*Хутка адказвай!*
*— Васіль гэта Быкаў.*
*— Годзе тут байкі казаць у адказ.*
*Вы толькі лялькі ў кагосьці ў руках.*
*Без падмацунку не будзе гарэння!*
*Хто заплаціў табе?!*
*— Гонар. Сумленне.*

***

*Тысячам. Шляхетных і сумленных.*
*Мацюкі. Дубінкі. Кайданы.*
*Як рабоў бяспраўных — на калені.*
*Як злачынцаў — тварам да сцяны.*

*Юнакоў і маладых дзяўчатак.*
*Спевакоў. Вучоных. Дактароў.*
*З асалодай кідаюць за краты.*
*Заганяюць, як лясных звяроў.*

*Бы сафары. На людзей. Са зброяй.*
*Як назваць і дзе імя знайсці*
*Гэтаму, хто загадаў такое?*
*Гэтым, хто такое дапусціў?*

*Нелюдзі? Фашысты? Паліцаі?*
*Кіслароду не стае ў грудзях*
*І душа заходзіцца ў адчаі —*
*Хто адкажа за пякельны жах?..*

*Не даруем мы крыві пралітай.*
*Не забудзем сцяг, таптаны ў бруд.*
*Тысячаў скалечаных і збітых.*
*Згвалчаную маці-Беларусь.*

*Мы ўсё-роўна верым: пераможам.*
*А пакуль — ляціць паўз небакрай:*
*«Пакарай іх, наш магутны Божа,*
*Самай страшнай карай пакарай!»*

**1863**

*Толькі модлы раслі небу ў сэрцах людзей,*
*І праклецце расло пакрыёма.*

***Янка Купала***

*Душнай хмарай бяда*
*Атачыла сівую сталіцу.*
*У жалобе ўвесь горад.*
*Вятры безнадзейныя дзьмуць.*
*У суворым здранцвенні*
*Зацята маўчаць камяніцы.*
*Па забітых героях,*
*Па краі, што ўзяты ў турму.*

*Скрозь цікуюць жандары.*
*Лютуюць казачыя сотні.*
*Ператрусы. Аблавы.*
*Этапы і здзек дзень пры дні.*
*Рвуць жалобныя стужкі*
*З ліхтарняў і дрэваў самотных.*
*Прымушаюць святочныя*
*Ў вокнах запальваць агні.*

*Слова нельга сказаць,*
*Што яшчэ не памерла Айчына.*
*Што жыве яна вечна*
*Ад Нёмана аж да Дзвіны...*
*І выходзяць на вуліцу*
*Ў чорных сукенках жанчыны.*
*Завушніцы — як цёрн.*
*Бранзалеты — нібы кайданы.*
*Пад паглядам жаночым*
*Міжволі спыняюцца каты*
*Хтосьці вочы хавае,*
*На крок адыходзіць назад.*
*Ды ў палацы сваім*
*Ашалеў генерал-губернатар*
*І дае неадкладна*
*Чарговы ганебны загад.*

*Не зважаць на гады.*
*Арыштоўваць старых і паненак,*
*Каб і думаць забылі*
*Ў жалобе хадзіць да крыжоў.*
*Штрафаваць! Штрафаваць!*
*Замыкаць у турэмныя сцены!*
*Ды ў адстаўку паўсюль адпраўляць*
*Іх нікчэмных мужоў.*

*І выконваць загад*
*Паляцелі адданыя служкі.*
*Край збялеў ад жуды,*
*Бо тым служкам імя — легіён.*
*Ціха месяца ў пыл*
*Пад нагамі жалобныя стужкі.*
*І расце пакрыёма*
*Цяжкі чалавечы праклён.*

***

*Азвярэлыя вочы, ды сліна*
*на страшных зубах.*
*Вар'яцее на шворках,*
*ажно захлынаецца ў шале*
*Безаблічная зграя раз'ятраных*
*дужых сабак,*
*Што гатовыя рваць, шкуматаць*
*без ніякага жалю.*

*Іх яшчэ шчанюкамі нацкоўвалі:*
*рві і жыві.*
*Не любіць прывучалі, а наадварот —*
*ненавідзець.*
*І цяпер яны прагнуць гарачай,*
*ахвярнай крыві.*
*І не мае ратунку жахлівы*
*канцлагерны віджэк.*

*Ледзянее душа ад шалёнага*
*брэху наўкруг,*
*А ад ляску зубоў кроў, здаецца,*
*спыняецца ў жылах.*
*Варта не спадабацца каму-небудзь*
*гаспадару —*
*І са шворак сарвецца гайня*
*да ахвяры застылай.*

*Людзі збіліся ў статак.*
*Ні слова пратэсту ў адказ.*
*Ні абураных твараў. Ні воклічаў*
*гнеўна-бунтарскіх.*
*Людзі нема чакаюць, калі зноўку*
*пачуецца: «Фас!»,*
*І куды будзе кінуты позірк*
*вачэй гаспадарскіх.*

*Абы толькі не я. Хай сусед.*
*Хай сябрук ці сваяк.*
*Абы толькі мяне не кранулі*
*ні сёння, ні потым...*
*Узмацняецца брэх. Усё большае*
*лютых сабак.*
*І мацуюцца новыя сцэны*
*калючага дроту.*

**Акупацыя**

*Калі ты не сам гаспадарыш*
*на ўласнай зямлі.*
*Калі тут і там працінаюць двары патрулі.*
*За родную мову — дубінка, за сцяг свой —*
*турма.*
*На катаў ліхіх ні закону, ні Бога няма.*
*Калі вынішчаюць апошнія волі сляды.*
*Калі бессаромныя служаць няпраўдзе суды.*
*Усцяж разліваецца мора бязмежнай хлусні*
*Такой, што і ў снах неспакойных*
*хлусню тую сніш.*
*Калі ажываюць паўсюдна даносаў майстры.*
*Ад страшнай бяды за мяжу*
*выязджаюць сябры.*
*Калі ад навінаў няцерпных захочацца выць*
*Ці несціся некуды проста на злом галавы,*
*Ды мусіш штораз утаймоўваць самога сябе,*
*Каб слова ўзнімаць, нібы сцяг,*
*у сваёй барацьбе.*

***

*Стрэмкі віны.*
*Рваныя сны.*
*За мурам мур*
*Новай сцяны.*
*Па закутках*
*Шчэрыцца жах.*
*Сонца няма*
*Ў ніцых дажджах.*
*Як не злаваць?*
*Чым саграваць*
*Сэрцы сяброў?*
*Думку вяртаць*
*Стуль, дзе крыжы,*
*З краю-мяжы?*
*Не існаваць —*
*Жыць!..*

***

*Не сумуй... Мы высока ўзляцелі.*
*Мы пабачылі сонца амаль.*
*Ды стамлёна ціўэюць арэлі,*
*Дзень нядоўгі згасае, на жаль.*

*Йшчэ нядаўна імгла адступала,*
*І ўвушшу вольны вецер свістаў.*
*Толькі дня аднаго, мусіць, мала,*
*Каб да чыстых нябёсаў дастаць.*

*Мы ўсё заўтра нанова паўторым.*
*А цяпер — апускаецца змрок,*
*І ўжо сунуцца нейкія ў чорным,*
*Каб арэлі замкнуць на замок.*

*Замыкаюць. Пагрозліва джаляць*
*Вочы колеру злога свінцу.*
*Толькі вартыя смеху і жалю*
*Іхні ржавы замок і ланцуг.*

*Мы жывем не па правілах воўчых*
*І змайстрачым арэлі сабе*
*З простай дошкі ды пары вяроўчын*
*На разгалістай, моцнай вярбе.*

*І калі на забытым дзядзінцы*
*Загудуць пад зямлёю званы,*
*Мы разгонімся, як у дзяцінстве,*
*І цяжкія прарвем туманы.*

Алена ВАСІЛЕВІЧ (1922—2021)

# Пані старшыніха

**Сёлета, не прычакаўшы свайго зямнога стагоддзя, адышла ў вечнасць старэйшая беларуская пісьменніца, аўтарка папулярнай тэтралогіі «Пачакай, затрымайся...» Алена Сямёнаўна Васілевіч (нарадзілася ў 1922 годзе ў засценку Даманшчына, цяпер вёска Ліпнікі Слуцкага раёна).**

**Як светлы ўспамін пра яе, «Літаратурная Беларусь» прапануе чытачам гэтае пранікнёнае апавяданне.**



— Ці чуў бо ты, Чэсік, што да старшыні нашага пані яго прыехала?

Гарбаты Мікодым, не спяшаючыся, рассцілае пад дубам зрудзелы ад дажджовіцы і сонца суконны даматканы халат, выпростваецца на ім усім сваім нязграбным целам і з асалодай закурвае люльку. Люлька сіпіць і захліпваецца гэтаксама, як сіпяць і захліпваюцца Мікодымавы грудзі. Мікодым зацягваецца пякельным дымам і доўга бухае кашлем: бух-бух-бух...

— Каб цябе немач узяла, каб цябе... — тыльным бокам далоні выцірае ён з вачэй слёзы.

Адбухаўшы, зноў звяртаецца да падпаска Чэсіка:

— Дык кажу, ці чуў ты, што да старшыні яго пані прыехала?

— Пані?!. — Чэсік не чуў гэтай навіны. Яна звальваецца на яго, як гура снегу. —Пані прыехала?.. — перапытвае ён, і чорны ад загару і сіверу твар яго, звычайна пахмуры і абыякавы, расплываецца ва ўсмешцы, адбіваючы па чарзе адно за другім самыя нечаканыя адценні: спачатку разгубленасць, потым спалох, а потым такую дзіўную пяшчоту...

Мікодым робіць выгляд, нібыта нічога гэтага не заўважае, і працягвае сваё:

— Дык вось кажу, пакуль старшыня будзе вылежвацца са сваёй паняю, давай упусцім на гадзіну якую кароў скраечку ў сенакос. Няхай паходжваюць з расой, а то пашы няма ані звання... Усё пазаворвалі, усё пакарчавалі гэтымі кустарэзамі... А цяпер з быдлам куды хочаш дзенься...

Новы кірунак Мікодымавых думак пра кароў і пра пашу пераключае Чэсіка на гэту тэму не адразу.

— А можа, пані і не вылежваецца... — панура пярэчыць ён Мікодыму.

— «Не вылежваецца»... — перадражнівае падпаска Мікодым. — Дурны ты, Чэсік.

— А вось і не дурны...

— Ну, а не дурны, дык займай кароў ды пераганяй цераз канаву, — строга ўжо загадвае Мікодым.

Ён старэйшы калгасны пастух. Пасе кароў, як толькі пасля вайны заснаваўся калгас. Чэсік таксама даўно пасе кароў, але ён усяго толькі падпасак у Мікодыма.Чэсіку хутка трыццаць гадоў. Ён рослы, плячысты і прыгожы з твару. У яго бяскрыўдныя, як у малога дзіцяці, сінія вочы і ўсмешка таксама бяскрыўдная і заўсёды крышку як быццам недаверлівая. Чэсік баязлівы і паслухмяны. Рукамі сваімі ён можа падняць, напэўна, хату — капу сена ён бярэ і падае на стог за адзін раз.Чэсіку хутка трыццаць гадоў... Некалі ў вайну, на вачах у яго, немец забіў з аўтамата яго матку. Маці сядзела ў хаце на ложку і карміла грудзьмі дзіця — Чэсікаву сястру. Немец даў з парога ўсяго адну толькі чаргу... І пайшоў з хаты. Суседзі тады ледзь сцягнулі Чэсіка з печы.

Ён доўга не гаварыў зусім, а потым доўга заікаўся... Паступова страх і заіканне прайшлі, а Чэсік як быў, так і застаўся на ўсё жыццё дзіцём. На ўсё жыццё застаўся няшчасным чалавекам...

Бацька з вайны таксама не вярнуўся, а цётка, у якой гадаваўся Чэсік, памерла неўзабаве пасля вайны. Так ён і застаўся на белым свеце адзін, як перст, у цётчынай хаце. У сваю хату (яна доўга стаяла з забітымі вокнамі, аж пакуль не перацягнулі яе да рэчкі на брыгадную лазню) заходзіць баяўся. Нават калі і вырас ужо, калі і забыў усё чысценька — і матку, і сястрычку, і тое кароткае чорнае дула аўтамата... Так і гібеў небарака, жывучы з людскoе ласкі. А ласка тая вядомая: кепска чалавеку самому — тады ён і пра другога ўспомніць. А добра — дык хто там вельмі клапоціцца, што ў некага галавы няма да каго прыхіліць...

Над Чэсікам зжалілася старая Паўліха. Была яна глухая і жыла адна душою, у самым канцы вёскі, у старой, як і сама яна, хаце. Гаспадара пахавала яшчэ за панамі. Сыноў трох з вайны не дачакалася. А дачка адзіная, хоць і жыла непадалёку, да маткі амаль не наведвалася. Пайшла замуж за нейкага ўпраўнага нарыхтоўшчыка, выбудавала дом пад шыферам — і забыла дбаць пра матку. І Паўліха вельмі не дамагалася даччынай ласкі. Ногі яшчэ трымалі, і яна пыніла калгасную птушкаферму...

Бядак бедака бачыць здалёк. Так і Паўліха. Пашкадавала сірату (ды яшчэ такое няшчаснае): адзін раз зварыла чыгунок гарачай бульбы ды занесла Чэсіку са свежым гурочным расолам, як прыгнаў кароў з поля. Другі раз забегла — апатрыла хату ды сёе-тое з адзення перамыла, каб падабнейшы быў. А як халады наваліліся, пачала заходзіць у печы прапаліць ці хоць дроў падкласці ды строга наказаць, каб глядзеў, каб, бронь божа, пажару не нарабіў... (Сам Чэсік ніколі ў печы не паліў. Нават зімой. Днём ён заўсёды рабіў на кароўніку, дык было цёпла. Вечарамі грэўся па цёплых людскіх хатах. А ноччу хоць спаў і ў ледзяной хаце, але пад кажухом таксама цёпла было...)

У аддзяку Чэсік прывозіў Паўлісе з лесу дроў. Прывязе, папілуе з хлапчукамі, а потым возьме пераколе ды гэтак акуратненька складзе іх у сціртачку пад паветкай. А то надумаецца ды ваду пачне Паўлісе насіць: нальe поўны цэбар, нальe начоўкі, а потым усе вёдры, якія толькі ёсць у гаспадарцы, паналівае... І ўсё гэта без загаду, па сваёй волі, моўчкі... Ну дык як ты яго, на месцы гэтай старой Паўліхі, не пашкадуеш? І каго ж ты пашкадуеш яшчэ, як не яго. І хто цябе пашкадуе, хто табе прывязе гэтых дроў ці пра ваду гэту ўспомніць?

І паступова да гэтага прывыклі і самі Паўліха з Чэсікам, і людзі прывыклі. Праўда, Паўлішын клопат пра Чэсіка зусім не перашкаджаў людзям (хіба не знойдуцца такія) падвучваць хлапца на кепскае. Маўляў, ты добра зарабляеш у калгасе, а Паўліха цябе нясмачна корміць і абы-як апранае. Пасля такой гаворкі Чэсік звычайна прыбягаў да Паўліхі сварыцца... Паўліха не спрачалася з Чэсікам, нічога не адмаўляла — яна толькі садзіла яго за стол, налівала яму міску гарачай капусты, а сама даставала з-за абразоў ключ ад шафы. Потым адмыкала яе і пачынала наказваць:

— Вось гэты суконны гарнітур, Чэсічак, хіба даўно мы табе яго купілі? Памятаеш, на Юр'я наўмысля хадзілі з табою ў Смаргонь... А вось гэту шаўковую блакітную кашулю? У каго на вёсцы ёсць харашэйшая? А вось гэтыя картовыя штаны — ні разачку не адзетыя. А яшчэ вось бравэрка, а паўбацінкі...

Не задзірлівы і не злапомслівы, Чэсік умомант апаражняе міску заскваранай здорам капусты і ўмомант забывае ўсё тое нядобрае, што яшчэ некалькі хвілін назад варам бушавала ў яго грудзях. Раз-пораз ускоквае ён з месца то памацаць шаўковую кашулю, то апрануць бравэрку — сіняе суконнае паўпаліто з цыгейкавым каўняром, то прымераць чаравікі... Чэсік цешыцца сваім багаццем, як дзіця, а Паўліха цешыцца Чэсікам. Дзякаваць богу, хлапцу ёсць у што апрануцца, ёсць што абуць. А людзі — ім ратоў не пазашываеш. Няхай сабе мелюць!

Нарэшце ўсё дабро зноў звешана і складзена ў шафу. Шафа замкнёна на ключ. І ключ схаваны за абразы.

На сэрцы ў абаіх лёгка і весела.Тым часам пара і выганяць каровы з ранкаў, і Паўліха ідзе рыхтаваць Чэсікаву торбу.

— Не баўся ж бо, дзеткі, — папярэджвае яна Чэсіка. — А то Мікодым будзе лаяцца.

Сама яна таксама спяшаецца. Ёй таксама пара на сваю ферму: каб хаця дзяўчаты не забылі паналіваць вады куранятам, а то пазаходзяцца ад смагі — гарачыня такая!..

— Глядзі ж, дзеткі, не пазніся! — яшчэ раз, з парога ўжо, наказвае Паўліха і бяжыць на ферму.

Чэсік бярэ торбу з ядой, бярэ пугу і, як штодня, як штолета, ідзе займаць калгасныя каровы....

Чэсік пагрозліва замахваецца — і раменная пуга свішча і сыкае ў паветры вужакаю. Каровы ведаюць Чэсікаву пугу і подбежкам, грузнучы па чэрава ў багне, перабіраюцца цераз канаву. Выбраўшыся на грудок, прагна прыпадаюць да смачнага роснага мурагу. Толькі і чутно: жвіў, жвіў, жвіў...

Сам Чэсік пераходзіць канаву па кладцы. Загад Мікодыма выкананы, і Чэсік можа пасядзець таксама. Адсюль каровы нікуды не пойдуць. Трэба толькі пільнаваць, каб старшыня калгаса не нерваваўся.

Успамін пра старшыню калгаса зноў падкочвае да Чэсікавага сэрца дзве хвалі. Адна хваля цёплая і лагодная: да старшыні прыехала яго пані старшыніха, а яна таксама прыгожая, такая вясёлая... Другая хваля нядобрая: яна студзіць Чэсікава сэрца і поўніць яго злосцю — а мо і праўду кажа Мікодым, што старшыня вылежваецца з паняю старшыніхаю... І Чэсіку здаецца, што брыдчэйшага і горшага чалавека за іх старшыню калгаса няма на свеце. Здаецца, каб стрэўся з ім дзе-небудзь у лесе ці ў жыце — забіў бы! Такі кірунак думак робіць Чэсікаў твар тупым і звераватым. І няма нічога дзіўнага: стрэнься старшыня яму ў такую хвіліну дзе-небудзь адзін на адзін — і заб'е...

— Чэсік, глядзі адно, не ўпусці ў шкоду кароў! (У лагчыне, за грудком, аўсы.)

Уладны Мікодымаў голас абуджае Чэсіка ад яго думак. Яны, як напуджаныя вераб'і, рассыпаюцца каторая куды, і Чэсік зноў застаецца сам з сабою, з галоўным сваім клопатам — каровамі.

— Гляджу, — панура адказвае ён і накіроўваецца да белага каменя.

Камень гэты, нібыта яго ўзялі і наўмысля пагаблявалі, роўны і гладкі, што той стол. На ім можна легчы і выцягнуцца — удоўж, упоперак. Можна сесці ўпяцярых. Можна скакаць нават. Ляжыць гэты белы камень тут з незапамятных часоў, і старыя кажуць, што ад яго і назва вёскі пайшла — Белая. Летась начальнік экспедыцыі, што шукала цэлае лета каля Белай нейкай солі, надумаўся быў узарваць белы камень. Ды людзі не далі.

Узлезшы на камень, бачыш, як бяжыць удалечыні Вілія, халодная, быстрая рэчка. Левы бераг яе нізкі, нібыта засланы зялёным аксамітам — толькі мясцінамі аксаміт перасыпаны, як вальцоўкай, мяккім, залатым пяском. У гэтым пяску цэлае лета капаюцца вясковыя дзеці. Гэтыя пясчаныя мясціны заўсёды выбірае сабе для вадапою жывёла.

Правы бераг Віліі высокі, стромкі, чырвоны ад пластоў гліны, што залягаюць па той бок. На тым беразе лясы — дубовыя і хвойныя. Па той бок у невялічкіх вёсачках Залессе, Падарэссе, Дуброва кожны год плойма дачнікаў...

Там на цёплым залатым пясочку цэлае лета загараюць у стракатых купальніках гарадскія дачніцы. Каля іх, з берага, пялёскаюцца і вішчаць ад захаплення іх дзеці, зялёныя і худыя, нібыта дома іх не кармілі хлебам... За лета гэта худзеча так адбегаецца па цёплым пяску, так адап'ецца смачнага вясковага малака, так загартуецца пад вольным сонейкам і ветрам, што пад восень дзіўна робіцца: няўжо гэта тыя самыя заморкі?..

А то яшчэ вельмі цікава пазіраць, як прыбягуць на Вілію і пачнуць купацца гарадскія паненкі. Як пачнуць плаваць і дурэць! Вось паненкі дык прыгожыя! Тоненькія, зграбныя. Асабліва калі паскідаюць свае кароткія, нейкія ўсё роўна як надзьмутыя сукенкі ды панадзяваюць на абстрыжаныя валасы блакітныя і ружовыя калгурыкі...

Чэсік падбірае полы свайго некалі фарсовага афіцэрскага плашча (плашч гэты падараваў яму гадоў сем назад адзін палкоўнік, сын якога ад школы і ад гарадскога жыцця кожны год уцякаў у Белую на цэлае лета пасвіць калгасных коней) і, нібы цар, з пугай у руках умошчваецца на сваім каменным троне. З трона Чэсіку ўсё відно як на далоні: каровы, Вілія, у лагчыне за грудком аўсянае поле. Налева ад грудка — у засені старых негаманкіх хвой — могілкі. Не тыя вясковыя могілкі з крыжамі і помнікамі, з кустамі бэзу і ліlеі, з птушыным шчэбетам і свістам — дзе хаваюць усіх вяскоўцаў. А зарослыя муравой, бязмоўныя, панурыя салдацкія могілкі — узгорачак на ўзгорачку, узгорачак на ўзгорачку — яшчэ з часоў першай імперыялістычнай вайны. Сярод іх узвышаецца некалькі большых

# прыехала...

узгоркаў — брацкія магілы. На гэтых могілках не захавалася ні надпісаў, ні імён, ні нават крыжоў. Надпісы сцёрліся, імёны забыліся, а крыжы з цягам часу збуцвелі і згнілі...

Чэсік любіць блукаць па гэтых бязмоўных могілках, якія, хоць і падступаюць да самых вясковых гумен і агародаў, цяпер ужо нікога не палохаюць, не хвалююць і не цікавяць нават... У Белай не памятаюць, каб на гэтыя могілкі прыязджаў ці прыходзіў нават і хто-небудзь блізкі тым, што ляжалі тут у радок больш паўвека. Відаць, гэта былі могілкі загінулых без вестак...

Блукаючы па могілках, Чэсік не ўмее адрозніць часоў і баёў. Яму здаецца, што і яго бацька, салдат Другой сусветнай вайны, таксама ляжыць недзе тут. Трэба толькі адгадаць бацькаў узгорачак...

Некаторы час Чэсік сядзіць на сваім камені-троне нерухома, потым ён устае, тупае і, як генерал, з вышыні свайго каманднага пункта, аглядае наваколле. Каровы ходзяць. З-за лесу выкаціўся і паволі коціцца па небе чырвоны бохан сонца. Святлее неба, і ўсё навокал святлее. І ў Чэсіка на душы робіцца святлей...

— Чэсік! Ты не заснуў там? — зноў турбуецца па той бок канавы Мікодым. Ён усё пад тым самым дубам — ён лішняга кроку не зробіць: а навошта Чэсік?

— Не заснуў! — павесялелым голасам адгукваецца Чэсік.

— То мо будзем выганяць... Каб старшыня часам не нарваўся...

Каб старшыня не нарваўся — сам Чэсік баіцца гэтага больш за Мікодыма. Баіцца, што старшыня будзе сварыцца на іх за тое, што ўпусцілі кароў у сенакос. Баіцца, што Мікодым раптам возьме ды скажа, што гэта не ён загадаў, а Чэсік сам узяў ды загнаў кароў на грудок... А самае галоўнае, што гэтага старшыню Чэсік сёння забіў бы...

Да старшыні прыехала з горада (яна кожнае лета прыязджае) яго пані старшыніха. Па тутэйшым звычаі — усё яшчэ на польскі манер — яе так і завуць «пані». «Пані» — хоць яна і ходзіць разам з усімі жанкамі на работу, хоць умее і жаць, і сена грэбці, і лён браць і біць... І гаворыць, як усе гавораць у Белай. А ўсё роўна — пані. Бо ў горадзе яна вучыць дзяцей у школе. У горадзе яна ходзіць у капелюшы і пальчатках. А з горада як прыедзе сюды — твар у яе белы і далікатны, і рукі таксама белыя і далікатныя, а не такія, як у тутойшых жанок і дзяўчат... І сукенкі ў яе гарадскія, прыгожыя. І сама яна такая прыгожая, такая вясёлая і добрая...

— Займай, Чэсік! — падае каманду Мікодым.

І Чэсік злазіць з каменя і — свісь, свісь пугаю — займае кароў з сенакосу. Ого, вунь якія круглыя зрабіліся! А здаецца, толькі што ўпусцілі. Вось сёння дзяўчаты-даяркі будуць хваліць яго, Чэсіка! Будуць адна перад другой упрошваць яго, каб узяў замуж — гэтак ён умее добра напасвіць кароў! Але на чорта яны ўсе Чэсіку. Нават Дуню Ушакевічаву Чэсік не ўзяў бы замуж, хоць яна і самая харашэйшая даярка, хоць яе і ў газету здымалі. На чорта і Дуня Чэсіку!.. Вось каб яна была такая, як пані старшыніха...

— Выкругліліся, — Мікодым ужо стаіць з кіем, пільнуе кароў ад загарадзі, каб каторая ўпраўнейшая ў калгасныя буракі не джганула. — Глядзі, Чэсік, каб цябе сёння дзяўчаты-даяркі не папацалоўвалі — каровы гэтулькі малака дадуць, — дражніць Чэсіка Мікодым.

— На чорта яны мне, — агрызаецца Чэсік.

— Дурны... «На чорта». Гэта дзяўчаты на чорта? Ого, браце, каб я меў столькі гадоў, як ты, я б пахадзіў каля іх...

— Ну, дык і хадзеце... — гэтыя дурныя Мікодымавы жарты кожны раз толькі ўзлуюць Чэсіка: патрэбны яму гэтыя дзяўчаты! І, каб не слухаць Мікодыма, Чэсік займае кароў і барздзжэй, барздзжэй з выгану ў лес. Там таксама будзе дзе пахадзіць каровам... А самае галоўнае — у лесе, на маладых пасадках, можна ўжо будзе назбіраць суніц. Можна будзе знайсці гняздзечка і непрыкметна ўкрасці адно ці два яечкі... Суніцамі ён пачастуе пані старшыніху (яна, напэўна, не спытала іх яшчэ сёлета). А яечкі аддасць пані старшынішынаму хлопчыку...

Мікодым ідзе ззаду чарады і толькі пасміхаецца ўслед Чэсіку: дурны то дурны, а бач, губа не дура — упадабаў пані старшыніху...

У лесе Чэсік украў у сініцы-дуплянкі пяць маленечкіх блакітных яек. А на пасадцы назбіраў салодкіх духмяных суніц. Яйкі ён загарнуў у шырокі кляновы ліст і палажыў іх запазуху — так не забудзеш пра іх і не парасціскаеш. А суніцы насіў, насіў у прыгаршчах, а потым даўмеўся — высыпаў іх у шапку...

І вось, прыгнаўшы каровы на ранкі, Чэсік крадком абміноўвае чырвоны куток на калгасным двары (каб дзяўчаты-даяркі не заўважылі — яны ніколі не даюць яму праходу...), крадком уцякае ад Мікодыма, хоць звычайна дадому ідуць яны разам. Сёння ў Чэсіка іншы клопат, і ён як быў з раніцы ў плашчы і цяжкіх гумавых ботах, так і ідзе ў суседнюю брыгаду, дзе кватаруе іх старшыня калгаса і куды ўчора прыехала пані старшыніха...

Чэсік ідзе сцежачкай між высокіх жытоў і ўяўляе сабе, як прыйдзе вязаць у жніво гэта жыта пасля жняяркі пані старшыніха. І як ён, Чэсік, таксама прыйдзе сюды і будзе, як і летась, памагаць ёй зносіць снапы (каб яна ног не пакалола іржышчам) і ставіць іх у бабкі... А да жніва яшчэ, як пачнецца касьба, як пачнецца грэбля сена, ён таксама будзе ладаваць за пані старшыніху ладкі і будзе насіць за яе копы да стога (каб у яе сярэдзіна і рукі не балелі)... А пачнуць некалі лён біць на таку — ён і на лён будзе хадзіць, будзе памагаць біць... Ён не тое што бабы: ляп-ляп пранікам — і знаку ніякага няма...

Захапіўшыся разважаннямі, Чэсік не заўважыў нават, калі прыйшоў да старшынёвай хаты. Ён зайшоў з прыгумення, агародамі і, не адважваючыся зайсці на двор, стаіўся за хлеўчыкам... Вось выбег з хаты і пагнаўся за катом бялявы хлапчук. Чэсік пазнаў яго (пані старшынішын сынок Коля) і памацаў у сябе за пазухай, ці не парасціскаліся яечкі... І неўзабаве за Колем старшынёва гаспадыня цётка Ганька вынесла нейкі белы скрутак (Чэсік не разабраў добра: дзіця, ці што?) і схілілася з ім над каляскай, што стаяла ў цяньку пад ігрушай-сапяжанкай. Скрутак раптам заварушыўся і заплакаў. (Чэсік упэўніўся: дзіця. Толькі дзе яна ўзяла яго, гэта старая Ганька?) Цётка Ганька загойдала каляску. У гэты час расчынілася насцеж акно на старшынёвай палавіне, і голас, які Чэсік пазнаў бы за светам, паклікаў:

— Коля! Ідзі, сыночак, выпі цёпленькага малачка.

— Ай! — адказаў Коля, аберуч трымаючы ката.

А цётка Ганька таксама сказала Колю:

— Ідзі, дзеткі, выпі кубачак.

Але ёй таксама Коля адказаў «ай» і пабег з катом на вуліцу. А голас, ад якога ў Чэсіка закалацілася ўсё ўсярэдзіне, зноў сказаў з хаты:

— Цётка Ганька, не трэба яе калыхаць. Я яе буду зараз карміць. Дома я яе ніколі не калышу.

Чэсік здагадаўся: значыць, гэта пані старшынішына дзіця.

А летась яго не было...

А потым з хаты выйшла сама пані старшыніха. Сонца свяціла ёй проста ў вочы, і яна спынілася на ганку, зажмурылася, засмяялася і, як маленькая, працягнула насустрач яму рукі...

— Ой, цётка Ганька! Як тут у вас добра, як хораша! — усклікнула яна.

Яна не была ўжо такой тоненькай, як летась. І залатыя валасы яе ўжо не плылі па спіне хвалямі, а былі закручаны ў вузел і заколаты на патыліцы шпількамі. І плацце на ёй было другое. Летась яна цэлае лета хадзіла ў белым... Але Чэсік не заўважыў гэтае розніцы. Чэсік нічога не заўважаў.

Не зводзячы з пані старшыніхі вачэй, ён раптам і сам засмяяўся і зажмурыўся. І, не выпускаючы шапкі, працягнуў рукі насустрач пані старшынісе...

— А ў горадзе цяпер такая гарачыня, такая пылішча!.. — яна лёгка збегла з ганка і нагнулася над каляскай. — Есці хоча, — зноў засмяялася яна — ужо да дзіцяці.

І Чэсік зноў таксама ціха засмяяўся.

— Дзіва што хоча. Не пара хіба... У нас дык пра гэтыя гадзіны ніхто і вухам не вядзе. Захацела дзіця есці, дык маці ўзяла ды дала яму цыцку. А вы там у горадзе, вучоныя, усё па гадзінах ды па кнігах і корміце, і спаць кладзяце...

Дзіця зноў заплакала, і, сеўшы тут жа на траву, пані старшыніха расшпіліла сукенку і пачала карміць яго грудзьмі. Дзіця ссала прагна, круцячы ад асалоды і задавальнення галоўкай і тыцкаючыся носікам у цёплыя матчыны грудзі.

— Бач, выгаладалася, — цётка Ганька пастаяла яшчэ хвілінку і пайшла ў хату.

А Чэсік усё не мог кранулца з месца, усё стаяў за хлеўчыкам і як зачараваны глядзеў на пані старшыніху.

У гэты час з плачам прыбег з вуліцы Коля, са свежай драпінай на шчацэ.

— Мама... мяне коцік!..

— А я табе колькі разоў казала: не бяры коціка на рукі, не цягай яго... Ён не любіць гэтага.

— Я толькі хацеў пакупаць яго ў сажалцы.

— А ён цябе прасіў купаць яго?.. Ну, хадзі сюды. А то напужаеш маленькую.

Размазваючы рукой па твары слёзы, Коля падышоў да маці і ўмасціўся ёй на другое калена. Яна абняла яго адной рукой, але яму так было нязручна, і ён сярдзіта ўзваліўся на сястру. Маці лёгенька адапхнула яго, але ён, яшчэ больш закапрызіўшы, стукнуў маленькую па голым сцягенцы. Маленькая зацялася ад болю, а маці сярдзіта сапхнула Колю на траву.

— Ты што гэта! Ану — ідзі прэч ад мяне... Я не люблю такіх нядобрых дзяцей.

— Ай! — зароў Коля і зноў палез да маці на калені, абхапіў яе за шыю і таксама прыціснуўся да грудзей. — І я хачу-у-у...

— Ну, пачакай, пачакай... — зразумела яго маці. — Вось накормім сястрычку, паложым яе ў каляску, і тады мы будзем з табою...

Але Коля не хацеў нічога слухаць.

— Яна брыдкая! — зноў замахнуўся ён на сястру, але маці ў час спыніла яго руку.

— Ды не... Яна проста маленькая яшчэ і дурненькая... А ты ж у нас ужо вялікі, ты ў нас разумны...

— Ай! — усхліпваў Коля і цясней хіліўся да маці, да яе цёплых грудзей, да яе ласкавых рук і пяшчотных пацалункаў...

А Чэсік стаяў за хлеўчыкам, глядзеў на ўсіх траіх і ўсё стараўся нешта ўспомніць. І ніяк не мог успомніць...

Ён глядзеў, як пані старшыніха карміла грудзьмі малое дзіця, як яна лашчыла і пяшчотна цалавала Колю, глядзеў і як быццам бачыў ужо не іх, а бачыў — успамінаў нейкую другую жанчыну і другіх дзяцей... Толькі тая другая жанчына была ў хустцы, была ў нечым цёмным, і дзіця на руках у яе таксама было ў цёмным... І хлопчык таксама сядзеў... Толькі не на каленях у маці, а на прымурку. Болей ён нічога не памятаў, ён толькі пакутліва намагаўся ўспомніць. Дзе ён гэта бачыў... Калі гэта было... Хто была тая жанчына...

— Пані старшыніха... — шэпча Чэсік. — Мама!.. Мама!.. — паўтарае ён, раптам пазнаўшы яе...

Толькі дзе яна была столькі гадоў?.. Чаму яна гэтак доўга не ішла?..

— Мама! — голасна крычыць Чэсік. — Мама!.. — і бягом, па градах, па загуменні, праз жыта кідаецца да свае старое хаты, што стаіць цяпер за лазню на беразе рэчкі....

На разоры застаецца ляжаць толькі Чэсікава шапка. А ў шапцы — жмені са дзве суніц — пані старшынісе...



Фота Алены Шахавай

Дар'я БЯЛЬКЕВІЧ

## Яна

*Лепш за ўсіх Жанчына запомніла:*
*халоднай вадой адмываецца кроў.*
*Сінеючы, ледзянеюць рукі,*
*распаўзаюцца плямы і павукі,*
*малая ведае на памяць ваду —*
*лезе купацца ў восеньскую навальніцу,*
*маланка кап›ём кладзецца ў яе руку.*

*Палонніца ўласнай недасканаласці,*
*паломніца справядлівасці,*
*паламаная яе адсутнасцю.*
*Перакуленая сасна*
*каранямі чапляецца за паветра.*
*Хвалі дасталі да лытак,*
*кудзеры плынь расчэсвае.*

*Вочы расплюшчыўшы, бачыць глей.*
*Завязвае бранзалет багавіння.*
*П›е з гарлачыка белага,*
*каб наталіць смагу смаўжыную,*
*каб сурочыць па-сарачынаму,*
*каб вучыцца па-павучынаму.*

*Гусіная скура Жанчыны.*
*Крамянасць да сутаргаў.*
*Балючая чысціня.*

*Крапіва пячэ аднолькава*
*і на тым, і на гэтым беразе.*

***

*Як чалавеку асвоіць космас?*
*Заплесці каметам хвасты ў косы.*

***

*Туманны прасцяг*
*прасцінай разаслаўся.*
*Цягнік ідзе — прас.*

Павел ДАРОХІН

***

*Без цябе*
*Бездань бздуры будзённай*
*Боль блюзнерскіх праклёнаў*
*Бездапаможных надзей*
*Дзе ты*
*Дзеці драўляных дахаў*
*Дызельныя пахі*
*Даляў дрыготкі дым*
*Дзе я*
*Дзіры часу і месца*
*Дзеі з няпэўным сэнсам*
*Дэзарыентацыя*
*Я тут*
*Тут гэта дзе не там*
*Кат крывакэрных драм*
*Кола нанова кут*
*Ты — не*
*Тантры трагічнай шлях*
*Тракт па чужых гарадах*
*Без мяне.*

Артур КАМАРОЎСКІ

***

*мова майго языка —*
*неспазнаная рэч у сабе*
*невядомая плынь*
*(плысці ёй да вытоку*
*глытаць*
*даўкія гукі й літары)*
*збіраць пад падушку*
*палын*
*ад запазычанняў*
*запальваць і-маякі*
*апострафы-ліхтары*
*гаварыць*
*значыць быць па-за мовай*
*навідавоку*
*аддаць яе пад ахову*
*самой сабе*
*ці жывое зямлі*
*што навокал*
*бывае яна брыняе вадою*
*а тая цурчыць*
*праз сляпыя адтуліны*
*і нараджае словы*
*такія*
*што мне*
*ніколі не прыручыць*

***

*хтосьці кемлівы*
*звыклы да фільмаў з субтытрамі*
*расчытае фірмовыя знакі скуры*
*цела*
*што хавае сябе за фільтрамі*
*спецэфектамі і тэкстурамі*
*прачынаешся*
*падымаеш дзень-ноч фіранкі*
*запіваеш кефірам сненні*
*фонам —*
*Колтрэйн і Фіцджэральд. тыя ж ранкі,*
*той жа скуры фасон і адзення.*
*за вакном*
*вецер дзьме ў раты фарынгіт*
*падае форт мой пад воплескі*
*зрыфмуеш*
*з нотаю фа вечны біт*
*фортэ і сонца водбліскі.*

Павел КАПАНСКІ

## настаўнік

*навучы дрэва гарэць*
*кветку не вянуць*
*рэчку не выходзіць*
*з берагоў*

*навучы дождж маўчаць*
*час не рухацца*
*жывёлу не бегчы*
*ад смерці*

*што ж ты за настаўнік*
*не можаш выканаць*
*такіх звычайных*
*патрабаванняў*

## шэпт тысячы галасоў

*не гарыць у печы*
*з-пад вады паднімаецца*
*і выбухае*

*шэпт тысячы галасоў*

*як малітва*

*да тых*
*хто не чуе*
*біцця свайго сэрца*
*енку сумлення*
*крыватоку гісторыі*

*да тых*
*хто не бачыць*
*бо не верыць вачам сваім*
*бо заплюшчвае іх*
*і жыве сваёй няпраўдай*

*да тых*
*хто не разумее*
*ні цябе*
*ні мяне*
*ні сябе самога*

## кветкі

*пытаю*
*ці дарыць кветкі*
*не, не трэба*
*адказваеш*
*нічога не трэба*
*мне і так*
*добра з табой*

*дару кветкі*
*шчаслівая*
*цалуеш мяне*

*праз дзень*
*кажаш*
*я няўважлівы*
*і не слухаю*
*цябе*

*і не спрачаешся*

Яніна РАВЯКА

***

*закрэсленых радкоў больш*
*чым удалых*
*не сказаных словаў больш*
*чым прамоўленых*
*якая недарэчнасць —*
*чалавечая мова*

***

*лужына на ўзбочыне дарогі*
*праглаператварыцца ў рэчку*
*бо была дастаткова працяглая*
*бо па ёй беглі хвалі*
*што стваралiся ветрам*
*бо ў яе не ўваходзілі двойчы*
*бо ў ёй адлюстроўвалася неба*
*што апынулася на зямлі*

***

*адзінота што*
*стала паўсядзённасцю*
*дазваляе шукаць словы*
*але не дазваляе іх знаходзіць*

Антон САЛАДОЎНІКАЎ

***

*Радзіма з акцэнтамі «Родины»*
*Вучыла маўчаць мяне з садзіку.*
*Хрыстос прызямліўся ў Гародні,*
*Але толькі для перасадкі.*

*Айчына па слоўніку Сталіна*
*Тлумачыла добрае, вечнае,*
*Таму і сучаснасць — рэстайлінг*
*Саветчыны.*


Фота klike.net

*Аповесць мінулых гадоў —*
*Дысклэймер для нашых нашчадкаў,*
*І што не зміні, усё — адно:*
*Гісторыя пішацца ў чатах.*

*Не верыце — лепшая ўзнагарода,*
*Не верыце — самі даследуйце:*
*Хрыстос прызямліўся ў Гародні*
*І памёр за рысай аселасці.*

***

*Адзінota — bene:*
*Ні яе, ні цябе, ні*
*Мінулага, лепшага, новага —*
*Усё адно:*

*Рэальнасць — вялізны ўтыль,*
*Дзе час — сартаванне для смецця,*
*Дзе толькі сёння і ты,*
*Без мінулых любімых і месяцаў,*

*Удваіх пад аховаю сцен*
*Ад стэрэатыпнага шчасця,*
*Дзе рукі былых усё часцей —*
*Павуцінне, дзе целу — без шанцаў,*

*Там зноў успаміны — у спаме,*
*Гармонія — ад гармонаў,*
*Здымкі — пратэзы для памяці,*
*Для ўпэўненасці — рамонак —*

*Знаёмы сюжэт ад і да,*
*Але яго мінус у тым,*
*Што твой Адзіnotre-Dam*
*Унутры.*

Ганна ШАКЕЛЬ

***

*сны — гэта кнігі*
*якія пішуць нам*
*нашы памерлыя*

*таму і варочаюцца*
*ўначы*
*пад коўдрай*
*павекаў*
*вочы*

*бо чытаюць*

***

*паэзія — котка:*
*ліжа ранкі*
*шурпата*

Марына ЮРЧЫК

***

*Ты не любіш басовыя партыі*
*тонкіх закрэсленых рук,*
*сола-партыю кос скарачаю наўмысна*
*амаль па выю.*
*А героі паданняў і вершаў кладуцца*
*ў друкарскі брук,*
*бо наогул нікому яны*
*не патрэбны цяпер жывымі.*

*Толькі фарбавы помнік і націскі —*
*россып засохлых ландрын —*
*друкаваныя словы не маюць*
*больш прывідаў, мрояў, рэха.*
*Хоць і горшы за стрыманы*
*спеў ксілафону тваіх рабрын,*
*шэраг літараў чорных на мне*
*значна лепшы за гукаў вэрхал.*

*Ты не любіш нямецкую —*
*холаду, звону пад ёй замнога,*
*я ж яе абіраю, бо толькі на роднай*
*ёсць горкі плён:*
*ты хаваеш галоснае "ы",*
*нібы так забіраеш рогат,*
*мне пакінуўшы менш за імя —*
*толькі сціплы сухі заклён.*

*Марна.*



Людміла
ХЕЙДАРАВА

# УЛОННЕ ЖЫЦЦЯ

## Пачатак рамана-фэнтэзі «КНЯЗЁЎНА ДАРУТА, або ЧАЛАВЕЧАЯ КРОЎ ЛІПУЧАЯ»

**Слова аўтара**

**Хоць падзеі, якія разгортваюцца ў рамане, прыпадаюць на сярэдзіну XVII стагоддзя падчас вайны з Масковіяй і геаграфічна адпавядаюць беларускай зямлі ў басейне ракі Бярэзіны і яе прытока Свіслачы, — гэтая гісторыя магла здарыцца дзе заўгодна і калі заўгодна. Таму не варта гартаць энцыклапедыі ў пошуках імёнаў, пададзеных у рамане, ды строга судзіць храналогію гістарычных падзей, у якія трапляюць ягоныя героі. Але хто ўзыходзіў на круты замкавы курган, што высіцца над сутокам двух маляўнічых рэк каля аграгарадка Свіслач, які ў мінулым меўся быць слынным горадам, цэнтрам удзельнага княства, хто ступаў па сцёртым бруку ягонага падножжа, хто падняўся да векапомных волатаў-камянёў, пакладзеных у падмурак аднаго з былых гмахаў замчышча, — той адчуе веліч гэтай зямлі, якую нішчылі і рабавалі напрацягу шматлікіх стагоддзяў ворагі і часовыя гаспадары, суайчыннікі і заваёўнікі — і ўсё-ткі не здолелі адабраць яе моц, зруйнаваць яе памяць, пазбавіць яе гонару. А я — жыла на гэтай зямлі, жыла яе хараством, ласкай і веліччу, жыла яе гнеўнымі і смешнымі, жорсткімі і рамантычнымі паданнямі — такімі, як і самі людзі, якія адвеку сяліліся тут або пакідалі яе ў пошуках лепшай долі, прыходзілі сюды са зброяй або паміралі за яе і на ёй. Гэтыя паданні, як і колішняе падлеткавае ўяўленне, шчодрае на прыдумку, крыніцамі жывілі плынь майго расповеду. Мая праца — не даніна зямлі, якая расціла мяне, бо даніну плоцяць паднявольныя, не ўдзячнасць ёй, бо па аддзяцы чалавек лічыць сябе нічым не абавязаным. Гэты сказ — прызнанне ў любові, якую яна адкрыла мне ў гэтым свеце, з якой вучыла мяне сваёй мудрасці, моцы і слову — прызнанне ў любові да зямлі, што ўвасобіла маё запаветнае Белаводдзе, зямлі, на якой жыла і жыве нашая сапраўдная Літва, нашая Белая Русь.**

…Знадворку чуліся бязладныя, кароткія ўдары.

Дарута ведала, што маці сячэ ламачча,назбіранае імі ранкам у лесе. Нізкі высахлых зёлак, развешаныя пад бэлькай у запечку, напаўнялі іхнюю маленькую хатку водарам кветак, сонечных лугавінаў, угрэтага палыну. Нават святочная апратка, якую дзяўчына парадкавала ў куфар, перакладаючы торбачкамі з рабінкавай травой, здавалася навобмацак цёплай. У хатнім прыцемку Дарута не адразу пазнала новы андарак, які маці каторы год збіралася апрануць на сустрэчу з князем. Тыя сустрэчы кожны раз чамусьці не адбываліся, і дзяўчына ўпотай лічыла іх прыдумкай, незразумелай матчынай прыхамаццю.

«Вось і ўчора казала, што ў нядзелю пабачыцца з князем. Напэўна, таму і андарак дастала, — здагадалася Дарута. — Добра яшчэ, што князь сапраўдны, а не прывід які!» — дзяўчына ажно адмахнулася ад нечаканага ўспаміну. Раптам ёй захацелася прымерыць гэты ўпарта ненадзяваны андарак.

Дарута адступіла да акна, каб падзівіцца на вішнёвыя ў срэбна-белых росах ружы, вышытыя палосамі па чорнай ваўнянай тканіне. Цьмяная плямка ранішняга святла, якое прапускала акенца, зацягнутае бычынай плеўкай, дазваляла разгледзець хіба што колеры. Дзяўчына расчаравана ўздыхнула і асцярожна праціснулася ў дзябёлую тканіну андарака.

— Еду-у-уць! — нечакана ўварваўся, каб тут жа захлынуцца, жахлівы, пранізлівы крык маці.

«Няўжо не хлусіў Ходзька…» — Дарута ажно скаланулася ад нязвыклага холаду ў сваім целе…

*…Не дужа тады паверыла яна сябруку. Думала, што жартам страшыць яе. Ходзька сцвярджаў, што свіслацкі пан не толькі даў яму дазвол на шлюб, а нават вырашыў, не адкладаючы, ажаніць яго з Дарутай увосень! Але днямі Ходзька прыйшоў дужа ўстрывожаны, паведаміў, што неўзабаве яна можа чакаць гасцей ад пана. Ён чуў, як дзядзька пана падахвоціўся прывезці Даруту ў маёнтак, каб засведчыла сваю згоду на шлюб. Ходзьку здалося, што насмейваюцца паны, быццам нядобрае задумалі. І калі раней Дарута не лічыла вартым распавядаць што-небудзь маці, дык тут не вытрымала, на ўсякі выпадак пераказала ходзькавы навіны.*

*«Мы з табой вольныя людзі! Ды ты яшчэ ў дзявоцтва не ўвайшла! Во-оой, што надумалі-і-і-іі… — загаласіла Марухна, але спахапілася. — Ходзьку пакліч да нас, можа, сам усё і прыдумаў. Вунь і бацька ягоны быў вядомы на вёсцы прыдумшчык ды баюн!»*

*Увечары Ходзька ўсё паўтарыў Марухне. Жанчына, нягледзячы на хваляванне, якое адбілася белымі плямамі на яе счырванелым твары, рашуча сказала, што будзе шукаць заступніцтва ў князя.*

*Ходзька не спадзяваўся на князя і прапанаваў уцякаць…*

…«А, можа, насамрэч, уцячы?.. Калі зараз пабегчы гародам да Рэгулянкі, а там кустамі да лесу — шукай ветру ў полі!» — яна памкнулася зняць з сябе святочны андарак, што прымервала, але перадумала. Усё ж такі ёй хацелася на свае вочы пабачыць тое, што мае адбыцца. Ды і страху перад невядомым не было. Наадварот, гэтае невядомае зманліва слала звілістую, поўную прыгод дарогу. Дарута не тое што любіла дарогу — з дзяцінства яна ўспрымала яе як свой дом, як сваё жыццё.

— Чаго стаіш!? — Марухна ўбегла ў хату з сякерай у руках.

Дарута няспешна прыладзіла на куфар накрыўку.

— Ты што, з лёсам барукацца надумалася? — крыкнула Марухна, кідаючы сякеру за дзверы ў сенцы. Жанчыну ажно калаціла ад узрушання.

Дарута ўважліва глядзела на маці. Яна не памятала, каб тая калі-небудзь крычала на яе.

— Ач-чом-майся! Б-бяжы! — заікаючыся ад перапуду, выгукнула Марухна.

— Ад мядзведзя не бегала! — адпрэчыла Дарута. Але трывога маці перадалася ёй, працяла, авінула, блытаючы адчуванні, як бывае, калі плывеш па крынічным возеры, дзе цёплая, угрэтая на паверхні вада нечакана змешваецца са сцюдзёным струмянём. Дарута здрыганулася.

Марухна пільна сачыла за дзяўчынай. «Нічога ёй не давядзеш, не ўкладзеш у галаву! Ну, рашайся хутчэй! — прагнула яна, млеючы ад страху. Коннікі вось-вось будуць на падворку. Можна яшчэ схавацца. — Рашайся! — крычала ў думках Марухна. — Як жа так? Слава, а не ганьба належыць ёй на гэтай зямлі. І Зара тое ж наваражыла. Як зберагчы яе? Божухна, падкажы, уратуй, утаймуй неразумную!..»

Дарута вагалася. Нешта як хапала яе за ногі, поўзала каля іх, шаптала: «Не думай… Не пашкадуеш… Хіба тут тваё жыццё?.. Едзь! Гэта шанец! Магчыма, адзіны!..»

Даруце раптам здалося, што яна аддаляецца сама ад сябе. «Не! Сама да сябе!» — нечакана ўзнікла староння, як бы чужая, думка. Яна адчула, што губляе Марухну, Ходзьку, нават сябе, што ўсё, на чым стаяла раней ейнае жыццё, канчаецца ў гэтае самае імгненне, і рванулася да дзвярэй.

— А-ёй! Кідаецца ў мае абдымкі! — зарагатаў рыжы цівун Халей, заступаючы парог хаты. — Не спяшайся! Цябе чакае лепшая доля! Ды ты прыбралася, дзеўка! — Халей разгледзеў святочны андарак на Даруце. — Добра! Хоць пан і гідзіцца вашай грубай апраткі, але ўпадабае тваю стараннасць, — каб надаць значнасць сваім словам і стрымаць новы прыступ рогату, Халей узвёў свае вочы ледзь што не на лоб. Здаецца, менавіта ад гэтага ў грудзях Халея зрабілася незнаёма тужліва.

Халей здагадваўся, што пан рыхтуе здзек над дзеўкай і яе маткай, якія насмеліліся без дазволу яго, гаспадара гэтых земляў, прасіцца ў двор старога князя. «Хоць яны і вольныя людзі, але ж не ў такой ступені, каб рабіць гэтым прыкрасць пану. Ды і чортава хатка на ўзлеску, хоць і занядбаная праз сваю ліхую славу, на панскай зямлі стаіць», — апраўдваў сябе ў думках цівун. Спалохаўся, схлусіў ён пану, што не саматугам Марухна з дачкой аселі на панскай зямлі. Падабраў іх неяк пад зіму на паштовым шляху, дапытаўся, што ў Свіслачы да князя ідуць, і дзеля пацехі пасяліў тут. Нагаварыў, што ніхто не пусціць іх, простых, брудных вандроўнікаў да таго здзічэлага, звераватага князя. Яшчэ ў скляпенні кінуць, а тое і ў раку на спажыву ракам. А ў гэтую хатку князь заязджаў пад час палявання. Заязджаў, але даўно, калі зямля разам з леснічоўкай была яшчэ ягонай. Не адзін год дурыў іх Халей сваімі абяцанкамі. «Дзеўка, вунь, паднялася. А тут, бач, што атрымліваецца! Можа, павярнуць адсюль, пакуль Тамаш не прыйшоў? Скажу, што не заспелі…» — Халей краем вока ўбачыў, што дзяўчына адступіла за гэты час да печы, і яму раптам зрабілася весела ад яе страху, захацелася нават дадаць яго.

— Пан выказаў табе пашану, паслаў брычку, а не так, як Жданку — везлі кулем. Гонар, бач, табе! Не марудзь, дзеўка!

Няведаючы, што рабіць, Дарута агледзелася і ўбачыла цэбар з пойлам, якое не паспела аднесці карове. Ад разгубленасці яна ледзьве ўтрымала цяжкі цэбар. Пераступаючы нагамі, каб захаваць раўнавагу, Дарута зачапіла нагой стары ўслон з каванымі ножкамі, адна з якіх канчалася вастрыём і чамусьці была завязаная ў вузел. Ён дастаўся ім гэткім разам з хатай і неяк прыжыўся. Марухна даўно меравала кульгавы ўслон бядой за здольнасць куляцца і пры гэтым рабіць ёй шкоду. Абдзіраючы дзявочае калена, услон пераруліўся і нават задрыжаў. Даруту ажно перакрывіла ад болю.

— Куды! Пастаў на месца! — заступіў ёй дарогу Халей.

— Аднясу пойла карове, — Дарута апусціла вочы. З калена струменьчыкам цякла кроў.

— Не здохне твая карова! А здохне… — Халей нахіліўся, каб ухапіцца за цэбар.

— Ды каб ты сам здох! — Дарута нечакана для сябе абрынула цэбар з пойлам на ненавісную рудую патыліцу.

Цівун бокам ціха асеў ёй пад ногі.

Марухна, якая гэты час не магла ні думаць, ні слова мовіць, апамяталася, падбегла да акенца. Два вершнікі, з нецярплівасцю паглядаючы на хатку, пакінулі сёдлы. У брычцы, здаецца, нікога не было.

Марухна ў роспачы агледзелася. На вочы трапілася мужчынская апратка, якая знайшлася некалі на гарышчы і з таго часу без патрэбы вісела каля дзвярэй.

— Надзявай! — загадала яна Даруце, зрываючы з цвіка апратку. Хуценька зашчапіла дзверы, схапіла нажніцы з падваконня. Надрэзала ручнік, каб адарваць стужку.

За дзвярыма пачулася лаянка.

Дарута перавязвала калена, як дзве тоўстыя касы засталіся ў руках Марухны. Медны абруч перахапіў валоссе на галаве дзяўчыны, якая цяпер у зрэбнай кашулі і штанах нагадвала поўнага моцы юнака.

— Князь-дзеўка… — прашаптала ўражаная Марухна, абачліва кідаючы адрэзаныя косы на тлеючае вуголле пячнога ўлоння. Валоссе пачало курчыцца, дымець, і жанчына, каб перабіць пах паленых валасоў, кінула ў печ нейкае рыззё, што трапілася пад руку. Пацягнула смуродам.

Дзверы ажно выгіналіся, трашчалі пад моцнымі ўдарамі раз'юшаных людзей і нарэшце не вытрымалі, выстралілі, ашчэрыліся вострым ашчэп'ем абапал пралому, у якім злавесна выбліснула лязо сякеры.

— Злітуйцеся, паночкі, — залементавала Марухна, пераступаючы цівуна. Яна знарок доўга корпалася з засаўкай, каб дакрычаць, давесці тое, што было вельмі важна, што магло ўратаваць Даруту. — Пашкадуйце мяне, старую! Падслепаватая! Дурная матка трапілася хлопцу! Сіратой пакіну яго на гэтым свеце! Здалося, разбойнік нейкі! Не пазнала я, паночкі, цівуна, а сынок і ўцяміць не паспеў нічога. Цёмна ў хатачцы нашай, паночкі любыя, як і на душы! Злітуйцеся!

У наступны момант Марухна разам з дзвярыма вылецела ў сенцы. Падаючы, яна паспела яшчэ ўхапіцца за нечы пыльны бот.

Дранцвеючы ад жаху, Дарута ўсім сваім целам адчула, як мякка хруснуў пад сякерай матчын хрыбетнік.

— Пся-крэў! Цівун мёртвы! — вылаяўся пісклявым голасам адзін з нападаючых.

— Сабаку і смерць сабачая, — абыякава азваўся другі, падчапляючы ботам руку цівуна. Рука торгнулася. Глядзі, і жывучы, як сабака! — дадаў ён гідліва, павяртаючыся да Даруты. — Дзеўка дзе? Тамаш, дапытай яго! Толькі блізка не падыходзь, мабыць, у штаны наклаў, не варушыцца нават. Ну і смярдзіць тут! Што за прыхамаць у Эдварда!

Заканчэнне на стар. 10 »

# УЛОННЕ ЖЫЦЦЯ

## Пачатак рамана-фэнтэзі «КНЯЗЁЎНА ДАРУТА, або ЧАЛАВЕЧАЯ КРОЎ ЛІПУЧАЯ»

**« Заканчэнне. Пачатак на стар. 9**

Дарута няўцямна глядзела на матчыны парэпаныя ступні, нязграбна раскінутыя ногі, на ейныя вылузаныя з рукавоў рукі, абсыпаныя вяснянкамі, і старанна абмінала поглядам тое месца, дзе глыбока, па самы тронак, сядзела сякера — варожая, чужая ў цёплым целе Марухны. У гэтым было нешта ненатуральнае, прыкрае, непраўдлівае…

— Не скажаш, дзе схавалася дзеўка, ляжаш разам з маткай! — прагучаў зноў пісклявы голас. Насупраць Даруты ўжо стаяў таўстун з вывернутымі пад нос вуснамі, з бліскучым ад тлушчу тварам.

І раптам Дарута адчула, як гарачая кроў разліваецца па ейных жылах, напаўняе гудкай зямной сілай, як тады, на бабруйскім тандзеце, калі нечакана для сябе яна ўсур'ёз адгукнулася на выклік мясцовага асілка…

*…Ад смеху людзі хіба што не качаліся па траве. Марухна, саромеючыся за сваё прастадушнае дзяўчо, схавала твар у поняўку. І толькі асілак, уважліва зірнуў у прагныя вочы Даруты і салодка працадзіў скрозь зубы:*

*— Не тут, мая харошая…*

*— Чаму не тут? — шчыра здзівілася Дарута, чым выклікала перуновы запал весялосці ў разявакаў. — Не верыш? — яна ўмомант апынулася побач з асілкам. Горда загаліла рукаў, напружыла руку. — Памацай!*

*Асілак карцінна паставіў вочы ў неба, затым адтапырыў мезенец і асцярожна крануў ім плячо дзяўчыны. Хуценька, нібы апёкся, сунуў мезенец у свой рот.*

*— Ды я колькі Ходзьку валіла! — Дарута пачынала ўжо злавацца.*

*— А! — асілак зрабіў выгляд, што напалохаўся, чым таксама пацешыў людзей.*

*І Дарута не вытрымала, наскочыла на блазнюка, з усяе моцы ўчапілася за ягоную шыю з надзьмутымі жыламі. Нібы жывы ківач, боўтаючыся на бакі, яна вагой свайго цела імкнулася выбіць сусіжніка з раўнавагі. Асілак спрабаваў выкруціцца, адарваць яе ад сябе, і ў той момант, калі Дарута разгублена зразумела, што бываюць людзі больш дужыя, чым ейныя сябрукі, нечакана абрынуўся на калені.*

*Віскат, улюлюканне, якія да гэтага чуліся ў натоўпе, адразу сціхлі. Не разумеючы, што здарылася, Дарута адпусціла шыю асілка, які абмякла ссунуўся на дол. Горла асілка выдавала нейкія жудасныя хрыпы. Людзі ўжо не весела, а нядобра глядзелі на яе, як хрыпы сціхлі і моцны храп скалануў варожую цішыню натоўпа. Дарута незнарок націснула на яго шыі кропку Зары…*

— Ты што, нямы? — пісклявы таўстун прыўзняў падбародак дзяўчыны.

Дарута перахапіла ягоную руку і штомоцы пацягнула на сябе, адначасна саступаючы ўбок. Гэта была яе ўлюбёная хітрасць, якой Дарута яшчэ ў дзяцінстве карысталася ў шматлікіх бойках з хлопцамі. Хаця яна ўжо вырасла з тых боек і часам адно дзеля смеху паказвала Ходзьку сваю сілу, пісклявы таўстун праляцеў паўз ейны бок і тварам бразнуўся на гліняную падлогу, паказваючы неадпаведныя сваім таўсцеразным нагам маленькія чырвоныя чаравікі.

— Сам нямы! — кінула наўздагон Дарута і азірнулася.

Высокі, незвычайнай худзізны мужчына з прыкметнай сівізной на скронях і абыякавым поглядам халодных, што рыбіных, вачэй крывіў рот у грэблівай усмешцы. Здавалася, тое, што ён бачыць, не адпавядае ягонаму разуменню, але ўсё ж такі забаўляе.

— Ідзі сюды! — раптам загадаў мужчына. — Ты! — ён тыцнуў на дзяўчыну пальцам, лянуючыся нават разагнуць яго.

Дарута было памкнулася да гэтага чалавека, але адразу апамяталася і схапіла кульгавы ўслон, пагрозліва ўзнімаючы яго на паскуднага крыўляку. У той жа момант цвёрдыя, моцныя пальцы перахапілі ейныя прыцэўкі[1]. Выпушчаны з рук услон ляснуўся на падлогу. Не малады, лянотны на выгляд чалавек перамяшчаўся як маланка! Вострае, нібы жалезнае, калена ударам пад пахвіну ледзь не зваліла Даруту з ног. Ейная галава тузанулася так, што валасы адкінуліся на патыліцу, адкрываючы гарачы погляд цёмных, шызых з водбіскамі зялёнага полымя вачэй. Медны абруч бразнуўся аб нешта на падлозе і меладычна зазвінеў. Імгненная разгубленасць, нават, хутчэй, здзіўленне ажывіла вочы мужчыны і дала Даруце магчымасць сабрацца з сілай. Яна штомоцы тузанула даўгалыгага на сябе за ўчэпістыя рукі і, калі ягонае цела прытулілася да яе, рэзка адштурхнула.

Незнаёмец, выгінаючыся, марудна валіўся на спіну, утаропленa гледзячы на Даруту, нібыта высільваўся нешта ўбачыць, разгадаць у той, каго палічыў было за юнака. У апошні момант ён апамятаўся, павярнуў галаву, каб упасці на бок, як трапіў скронню на вастрыё завязанай у вузел ножкі ўслону. Ягоныя шырока расплюшчаныя вочы заторгаліся, нібыта чалавек яшчэ высільваўся дагледзець штосьці неверагоднае ў сваім жыцці.

— Дароціца… — прашаптаў мужчына і раптам усміхнуўся, выскаляючы доўгія моцныя зубы.

Даруце здалося, што яна бачыць вялізную змяю, якая разявіла сваю пашчу перад укусам. Яна скаланулася ад агіды і жаху.

— Княгіня… — мужчына паспрабаваў падняць галаву, але яна, быццам падсечаная, глуха грукнулася на падлогу…

Дарута аглядзелася вакол. Яна не магла зразумець — што далей рабіць ёй тут, у нечакана ціхай і страшнай хаце? Яна зусім не шкадавала знявечанага жытла, пра якое Ходзька распавядаў і не такія жахі з мінулага. Наадварот, хацелася хутчэй пакінуць гэтае месца.

Прыслухалася да сябе, да сваіх адчуванняў. Дык вось якая яна атрымалася — невядомасць! Сцюдзёна і велічна, нібыта ў заснежаную бездань, абрывалася ў будучыню яе ўражаная душа. Але нешта яшчэ трымала яе тут, самае апошняе, самае лёгкае, самае неверагоднае з яе зусім маладога жыцця.

— Дарута… — пачулася ў дзяўчыны за спіной.

Дзяўчына забылася на ўсе свае думкі:

— Жывая! Я тут, матулька!

Але адразу зразумела, што маці паклікала яе амаль з таго свету.

Вейкі Марухны здрыгануліся, і неяк дзіўна прахлюпала ў ейных грудзях:

— Дарута… — Марухна торгнулася і шырока вытарашчыла вочы. — Не маці я… табе… хуста… князь… — прасіпела жанчына і аціхла.

Дарута паклала свае далоні ёй на вочы і апусціла матчыны павекі. Назаўсёды…

Цівун застагнаў, і гэта вывабіла Даруту ад здранцвення.

У хаце пахла крывёй, якая, сцякаючы па няроўнай падлозе, назбіралася ў лужыну крыху воддаль галавы Тамаша. Над гэтай лужынай віліся мухі. Яны падалі ў яе і тут жа ўзляталі, з цяжкасцю адрываючы лапкі з ліпкай крыві.

Дарута накіравалася да печы, разгрэбла вуголле пад смярдзючай анучай. Некалькі сухіх лучынак, прыхаваных на растопку, заняліся хутка. Прасмоленае пакулле, наматанае на чапялу, успыхнула чырвоным д'ябальскім святлом, выпускаючы рогі чорнага смуроднага дыму. Цяпер убогая хата падалася Даруце нават злавеснай.

Як заваражаная, янаглядзела на агонь, што ахвотна слаўся па старых, пачарнелых бярвёнах, праканапачаных высахлым мохам.

З лужка на беразе Рэгулянкі данеслася трывожнае мыканне.

«Куды з ёй схавацца? Збяруцца людзі на пажар, забяруць карову, не прападзе, — вырашыла яна. — Трэба хутчэй адсюль!»

Дарута ўзняла на рукі Марухну і аднесла ў брычку. Яна прывязала за брычкай двух коней і асцярожна кранула лейцы.

«Хуста!» — нечакана ўзгадаўся наказ Марухны…

*…Дарута ведала, пра якую хусту казала маці. Марухна хавала яе на саменькім донцы куфра, не дазваляючы нават дакранацца да гэтай каштоўнасці — зеленавата-блакітнай танюсенькай ваўнянай тканінкі, аздобленай срэбнымі ніткамі ды расшытай у кветкі, пялёсткі якіх складаў жэмчуг, а сярэдзіну залатыя пацеркі; хуста мела форму расцягнутага кола, нагадваючы рамонкавую паляну, дзе кветкі разам павярнулі свае галоўкі да ранішняга мяккага сонца. Даруце часам здавалася, што яна памятае гэтую хусту ўсё сваё жыццё.*

*— Пасаг твой! — мовіла Марухна аднойчы. І заўсёды маўчала на пытанні малой аб паходжанні гэтай незвычайнай рэчы ў іхняй сям'і. Часам дзяўчынка чаплялася дужа моцна, і маці жартавала, што дзяўчаты пра ўсё даведваюцца на сваім вяселллі. І, калі раней Дарута адразу пачынала распытваць Марухну пра вяселле, дык аднойчы адступілася назаўсёды. Вяселле пачало здавацца ёй страшнай падзеяй у жыцці, і набліжаць яго сваёй цікаўнасцю яна не хацела. Дарута нікому не распавядала пра тое, што неўспадзеў давялося ёй ўбачыць у лесе.*

*Яна пабегла тады ў лес на саменькім золку. Шлях быў не блізкі. Нягледзячы на познюю восеньскую пару, Дарута спадзявалася знайсці познацвет — незвычайна прыгожую вялізную кветку, што вырастае з цёмнай, халоднай, сырой зямлі тады, калі ўжо нават дрэвы амаль страцілі сваю лістоту, і цвіце, не зважаючы на першыя прымаразкі, падымаючы штодня новую пяшчотнаружовую галоўку. Дарута бачыла іх залетась каля паштовага шляху, вяртаючыся з Брыцалавіцкіх балотаў з поўным кошыкам журавінаў. На гэты раз яна вярталася, трымаючы ў руцэ букецік ружовых кветак, перавязаных маленечкай ліянай цёмназялёнага плюшчу. Дарута хацела ахвяраваць гэтыя дзівосныя кветкі самай прыгожай, самай чароўнай дзяўчыне, на якую не маглі надзівіцца вочы кожнага, хто спыняў на ёй погляд. Жданка і Войцэх павінны былі ў той дзень пабрацца. Праз нейкую пошасць, што выкасіла ў свой час палову Шэйпічаў, Жданка засталася сіратой і ў маленстве жыла па суседзях. Цяпер усёй вёскай сабралі ёй пасаг, каб праводзіць у хату Войцэха.*

*Дзень пачаўся добра, сонца, хаця і нізкае гэтай парой, стварала ўражанне святочнага настрою і нават цеплыні. Дарута радасна бегла якраз насустрач сонцу, калі да яе даляцелі гукі ці палявання, ці пагоні. Яна ўжо чула, як невядомы звер ломіцца праз нізкарослы гушчар на ўзгорку, і саступіла з ледзь прыкметнай сцежкі да сасны, каб на ўсякі выпадак схавацца за ёй. Зямля правалілася пад Дарутай якраз у той момант, калі яна ўбачыла Жданку, якая выбегла з гушчара. Скрываўлены белы твар са страшэнна вырачанымі вачыма — над букецікам дзівосных кветак у ашчадна ўзнятай у час падзення руцэ Даруты. Спрабуючы нажом, з якім яшчэ малечай ніколі не расставалася, зачапіцца за край ямы, Дарута чула жудасныя крыкі Жданкі, лаянку невядомых ёй паляўнічых. Толькі ўвечары па прыступках, выдзеўбаных нажом у рыхлай лясной глебе, што абвальвалася пры кожнай спробе выбрацца, дзяўчына пакінула звярыную пастку.*

*Ад бездапаможнасці і жалю да Жданкі Дарута праплакала на лаве ўсю ноч. Маці моўчкі атуляла яе, давала піць нейкія ўзвары.*

…Нават цяпер, у гэты дзень, поўны смерці, крыві і агню, Дарута скаланулася ад жахлівага ўспаміну. Яна спыніла коней і хуценька вярнулася ў хату. Ад дыму і гарачыні было цяжка дыхаць. Стараючыся не думаць пра яшчэ жывога цівуна і двух другіх, цераз якіх ёй давялося пераступіць, Дарута імгненна вывернула долу змесціва куфра. Берасцянка з хустай цяпер апынулася на самым версе. Дзяўчына засунула яе за пазуху і прыхапіла яшчэ два скруткі палатна на пахаванне Марухны.

Ад'язджаючы, Дарута не азірнулася на палаючае знявечанае жытло…

**Цалкам раман чытайце ў часопісе «Дзеяслоў» (№№ 4, 5 (113 — 114) за 2021 год).**

[1] Запясці.

# Трынаццатая «Жырандоля»




**Выйшаў з друку чарговы — трынаццаты — літаратурны альманах Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Жырандоля».**

Выданне традыцыйна багатае на паэзію: нумар знаёміць з новымі вершамі Аляксея Белага, Вольгі Беражанкі, Аляксея Галаскока, Аляксея Ганчука, Уладзіміра Данілюка, Анатоля і Васіля Дэбішаў, Сяргея Казака, Васіля Казачка, Алеся Корнева, Уладзіміра Лебедзева, Генадзя Мішчука, Зінаіды Навасад, Валянціны Осіпавай, Ігара Сідарука, Ілоны Сцяцко і Тацціны Яцук.

Проза прадстаўлена тэкстамі Лявона Валасюка, Міколы Ільючыка, Паўла Ляхновіча і Васіля Ярмашука.

Значная частка альманаха прысвечана светлай памяці літаратараў Берасцейшчыны: Кастусю Жмінько, Алесю Каско, Валянціне Кукса, Міхасю Рудкоўскаму, Анатолю Гараю, Васілю Гадульку.

Сярод іншых раздзелаў «Жырандолі» — прысвячэнні сёлетнім юбілярам, пераклады, крытыка і літаратуразнаўства, гумар і вершы для дзетак-малалетак.

«Нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, беларускія пісьменнікі ўносяць, як і раней, значны ўклад у скарбонку нацыянальнага духоўнага і культурнага багацця. У іх шэрагу годна выглядаюць пісьменнікі-берасцейцы. Створанае імі знаходзіла і будзе знаходзіць заўжды вартую ацэнку прыхільнікаў прыгожага пісьменства, усіх, хто дбае не толькі пра хлеб надзённы, але і пра духоўны стан грамадства, пра будучыню Беларусі», — слушна адзначыў-падрахаваў у прадмове да альманаха Іван Мельнічук, колішні старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.

# «Ад радасці — да болю і адчаю»

## Пра кнігу паэзіі Анатоля Брусевіча «Крылы»

Марына ШЭПЕЛЕВІЧ




З'яўленне добрай кнігі — як нараджэнне чалавека. Бо чалавек — гэта доўгатэрміновы ўклад, па якім дывідэнды можна атрымліваць стагоддзямі. Так і з кнігай. Гэта доўгатэрміновы ўклад уздзеяння на чалавека.

Прачытала кнігу Анатоля Брусевіча «Крылы» *(Гродна, выдавецтва «ЮрСаПрынт», 2021)* і хачу падзяліцца ўражаннем. Прадстаўлю тры грані, якія, на мой погляд, робяць яе з'явай як у гарадзенскім літаратурным працэсе, так і ў агульнабеларускім.

Як лейтматыў да першай вазьму вядомыя словы: «Напачатку было слова» (Ян, 1: 1). Усявышні стварыў свет словам, якім забяспечыў і чалавека. Валодаць словам, каб сузіраць, дадзена не кожнаму, а таму паэты — асаблівыя людзі. Ім дадзена зброя, якой звычайны чалавек не валодае. Думаю, гэта абранасць не дзеля абранасці. Але дзеля чаго тады? Што хоча данесці свету такі чалавек? Што ён укладзе ў свядомасць сваіх чытачоў? Бо да яго меркавання будуць прыслухоўвацца, яго меркаванне будзе кіраўніцтвам да дзеяння, і не сакрэт, што сказанае слова і здзейснены ўчынак запускаюць у сусвеце ланцуг пэўных падзей. І тым, якія гэта будуць падзеі, можа распарадзіцца паэт.

Што хоча сказаць свету Анатоль Брусевіч? А яму ёсць, што сказаць.

У кнізе, якая аб'яднала чатыры раздзелы і паэму, якая дала назву кнізе, знаходзім адвечныя тэмы, якія, як мне здаецца, павінен «бударажыць» паэт, калі ён сапраўдны паэт: пошук Бога, каханая і верная жанчына, узлёты і падзенні, горкі вопыт, які здымае ружовыя акуляры, вынікі, нахай і прамежкавыя, пытанні, куды ісці і як ісці... І ўсё гэта адлюстравана ў форме, зразумелай чытачу з любой падрыхтоўкай, што, на мой погляд, сведчыць аб майстэрстве аўтара.

Паэт піша ў стылі неадэкадансу, які перадае настроі згасання ў сучаснай рэальнасці, у новай падачы. Але агульны настрой кнігі, як ні дзіўна, аптымістычны. Знайсці сваю нішу ў распрацаванай эстэтыцы — няпростая задача, але Анатоль Брусевіч справіўся, і па законах сінэргіі слова стала «адзін плюс адзін раўняецца тры». Вершаваная тканіна шчыльная, жывая, яна бышчам пульсуе пад пальцамі, рыфмы натуральныя, і магу сказаць, што тэксты грунтоўныя. Цытаваць можна ўсё запар, і вось чытаем:

Плач, хай спадуць з душы
Горкія гронкі вершаў.
Плач, абудзі на крыжы
Хатніх надзей бязмежжа.

Плач, а следам дажджы
Сэрца напоўняць песняй.
Веру, ты будзеш жыць.
Веру, як Бог, ускрэснеш.

*(«Радзіме»)*

Суджу аб грунтоўнасці тэкстаў яшчэ і па тым, што, як я ўпэўненая, добрыя вершы прымушаюць адкласці штодзённыя справы, агледзецца на сваіх шляхах, задумацца пра вечнае, нешта палепшыць, рушыць далей. Карацей, узнікае дзеянне ў адказ, што здараецца толькі пасля добрых вершаў.

Анатоль Брусевіч — гарадзенскі аўтар. Горад — герой і месца дзеяння многіх яго вершаў. І наш горад у кнізе жывы. Ён не фон для паэта, а сапраўдны партнёр у зносінах, са сваім характарам, са сваёй жыццёвай філасофіяй. «Горад, ноч»:

Ты ніколі не спіш. Як і іншыя ўсе гарады,
Сузіраеш прастор з-пад жалезабетонных павек.
Ты баішся заснуць, як баіцца стары чалавек
Не дажыць да світання, заснуўшы — заснуць назаўжды.

Неспакой гэты вечны вартуюць твае ваяры —
Камяніцы, касцёлы, гатовыя кінуцца ў бой.
Хоць і бітвы не будзе, бо коміны трубяць «адбой»,
Налівающа кроўю ад злосці старыя муры.

Ды і як тут заснеш — у цагляныя жылы кляшчом
Паўпіваліся сотні галодных і дзікіх машын.
І свярбяць светлафоры, і мёртвыя верты вітрын,
І гатэлі, і п'яныя кнайпы за кожным вуглом.

Я таксама не сплю — углядаюся ў роспач і жах,
У самоту стагоддзяў, у горыч наступнага дня,
У халодныя вочы, якія нічога не сняць,
У каменныя вершы, якія слязяцца ў вачах...

Дакладна вызначыў творчае крэда Анатоля Брусевіча Павел Каспяровіч, яго сябар і таварыш па літаратуры: «Я думаю, можна напісаць, што Анатолю Брусевічу, як яскраваму прадстаўніку дэкадансу, уласцівыя змрочныя фарбы ў ранняй паэзіі, песімізм і вальнадумства. Але пошук святла ніколі не пакідаў яго, як і ўспрыняцце рэлігіі праз прызму мастацтва. Мне здаецца, што вера, не мёртвай літары закону, заўжды была ў Анатоля. Тут можна прыгадаць прарока Давіда, які звяртаўся да Бога з усім спектрам чалавечых пачуццяў: ад радасці да болю і адчаю... Так і Анатоль у вершах не баіцца паказваць унутраны сусвет сваіх пошукаў...»

Другая грань — гэта адлюстраванне генезісу і развіцця паэта як творчай індывідуальнасці і як звяна, уплеценага ў агульную бясконцую плынь паэзіі, размешчаную ў часе. І тут вельмі дарэчы прадмова да кнігі, напісаная Данутай Бічэль. З яе даведваемся, што гэтая кніга не нешта спарадычнае (таму што ў выпадку Анатоля Брусевіча гэта было б неспраўядліва), але натуральнае звяно ў творчасці аўтара і ў агульным літаратурным кантэксце. Важнай — сярод іншых шматлікіх падзей, якія тлумачаць эвалюцыю Брусевіча-паэта, — для мяне стала адсылка да дзевяностых гадоў, калі бурліла грамадскае жыццё, калі таленавітыя маладыя людзі аб'ядналіся ў «верш-гурт» «Дыяген», калі яны, маладыя, гарачыя, апантаныя, пісалі, спрачаліся, паляпшалі, адраджалі беларускае слова, узаемна «гартавалі» адзін аднаго. Тады грамадства зазнала шок, у такія перыяды з'яўляюцца дрэвы з магутнымі каранямі, а ў многіх запалу для росту хапае на ўсё жыццё. Са здзіўленнем і радасцю даведалася, што хросным бацькам Анатоля стаў не хто іншы, як Аляксей Карпюк. Пісьменнік звярнуў увагу на талент хлопчыка і дапамог выдаць кнігу вершаў «Дуэль», калі той быў у дзявятым класе. Вось і сувязь пакаленняў, вось і пераемнасць, вось і анёлы-настаўнікі маладых талентаў.

Адзначу, што прадмова Дануты Бічэль каштоўная і сама па сабе, таму што як мікраэнцыклапедыя дае разуменне гарадзенскага літпрацэсу ў цэлым. Яна мае падзагаловак: «Ад Адама Міцкевіча да Анатоля Брусевіча». Гучыць, праўда? Прачытайце, не пашкадуеце.

Такім чынам, гэта другая грань, якая вызначае месца кнігі і ў творчай эвалюцыі Анатоля Брусевіча, і ў беларускай паэзіі.

А вось і трэцяя грань — афармленне кнігі. Як выказаўся вядомы расійскі графічны дызайнер Барыс Трафімаў, «кніга — гэта сустрэча з незнаёмым чалавекам, закрытая гісторыя, у якую трэба пагрузіцца і зразумець яе». Вокладка кнігі павінна прыцягнуць чытача і адразу сказаць яму, чаго чакаць. Гэта своеасаблівы аванс: ён дае зразумець, што не варта толькі раўнадушна глянуць на яе і абыякава прагартаць старонкі. А можа, і таго не зрабіць. Вокладка намякае нам, у чым спецыфіка тэксту, у чым асаблівасць, чаму менавіта гэтую кнігу я хачу купіць і абавязкова прачытаць. Ад абранай канцэпцыі залежыць, ці не давядзецца мне пашкадаваць, альбо ці стане кніга маёй, вельмі блізкай?

Думаю, з гэтай задачай аўтар і выдавец справіліся выдатна.

На вокладцы анёл, ён схіліў галаву ў пакоры, ён не задраў яе да нябёсаў, як бы патрабуючы адказу: а што, уласна, адбываецца? Ён гатовы прыняць наканаванае звыш. І ўсё ж у яго ёсць крылы, ён можа лётаць, падняцца над штодзённасцю, адарваць сваю прывязанасць да зямных рэчаў, прынесці добрую вестку, на што ён і створаны. І калі чытаеш вершы і паэму, разумееш: анёл з'явіўся свядома, ён прыйшоў знутры матэрыялу. Анёл не маўклівы назіральнік, анёл — з трубой. Труба — гэта відавочны, пазнавальны знак. Труба заўсёды азначае вестку, нездарма ў кнізе прарока Ісаі гаворыццаа: «Узвысь голас твой, каб быў, як труба». Трубілі на свя́ты і ў трывожныя часы. Такім чынам адсылка да весткі, якая адносіцца да пэўных падзей, цалкам зразумелая.

Наш анёл з вокладкі пазнавальны. Гэта тварэнне гарадзенскага мастака Аляксандра Сільвановіча.

Як мне здаецца, важна, што кніга ў цэлым — гэта сінэргія аўтараў Гарадзеншчыны — Анатоля Брусевіча, Дануты Бічэль, Аляксандра Сільвановіча, Аляксандра Рыжага — выдаўца і флагмана прагрэсіўнага гарадзенскага літпрацэсу, якія атрымліваюць менавіта тут, у нашым незвычайным горадзе, сваё натхненне і якім, безумоўна, зразумелыя алюзіі ды інтэнцыі.

Думаю, што кніга актуальная як ніколі, улічваючы напружанне часу; кола пытанняў, якія задае аўтар і на якія хоча адказаць — злабадзённае, а таму выйшла яна да часу.

Рэкамендую да прачытання.

# Новы літаратурны Нобель

Нобелеўскую прэмію па літаратуры сёлета атрымаў брытанскі пісьменнік з Занзібара Абдулразак Гурна (Abdulrazak Gurnah).

Нобелеўскі камітэт патлумачыў выбар «яго бескампрамісным і пачуццёвым выкрыццём наступстваў каланіялізму і лёсу бежанцаў у вірах культур і кантынентаў».

Абдулразак Гурна нарадзіўся ў 1948 годзе ў сям'і мусульман арабскага паходжання на падкантрольным тады Брытаніі Занзібары. Ва ўзросце 20 гадоў (тады ўжо востраў стаў часткай Танзаніі) пераехаў у Англію, дзе стаў вядомым пісьменнікам і аўтарам даследаванняў пра шэраг сучасных посткаланіяльных літаратараў (такіх, напрыклад, як Салман Рушдзі). З 1980 па 1982 гады чытаў лекцыі ва Універсітэце Байеро ў Нігерыі. У 1982 годзе абараніў доктарскую ступень у Кенцкім універсітэце. Цяпер у званні прафесара ўзначальвае аспірантуру на кафедры англійскай мовы. Быў адказным рэдактарам двухтомнага зборніка «Эсэ пра афрыканскае пісьменства».




Абдулразак Гурна — аўтар некалькіх раманаў: «Памяць пра ад'езд» (1987), «Рай» (1994), «Ля мора» (2001), «Дэзерцірства» (2005), «Апошні падарунак» (2011) ды іншых, а таксама зборніка апавяданняў «Мая маці жыла на ферме ў Афрыцы» (2006). У 2017 годзе выйшаў яго апошні на сёння раман «Жвіровае сэрца».

Асноўная тэма яго твораў — бежанцы і іх адаптацыя ў Англіі. Гурна з'яўляецца адным з выразнікаў думак і настрояў групы мусульманскіх пісьменнікаў, якія эмігравалі ў Англію ў 70-я і 80-я гады і не вярнуліся ў краіны свайго нараджэння. У яго рамане «Ля мора» ўзнімаюцца важныя тэмы самаідэнтыфікацыі бежанцаў у іншай краіне і захавання памяці аб сваёй радзіме.

Раман «Рай» Гурны быў уключаны ў шорт-ліст Букераўскай і Уітбрэдаўскай прэмій, раман «Ля мора» намінаваўся на прэмію «Букер».

Раманы новаабвешчанага набелянта пакуль не былі перакладзены ні на беларускую, ні на рускую мовы.

У сваім першым інтэрв'ю «ў новай іпастасі», апублікаваным на сайце Нобелеўскага фонда, пісьменнік распавёў пра складаны лёс мігрантаў. Гэта тое, што пісьменнік адчуў на сабе і пра што піша ў сваіх кнігах. «Людзі заўсёды перамяшчаліся па свеце. Я думаю, што гэтая з'ява, калі афрыканцы перабіраюцца ў Еўропу, нейкім чынам новая. Але ў тым, што іншыя — еўрапейцы — разїзджаюцца па свеце, у тым няма нічога новага, гэта працягваецца цэлыя стагоддзі, але цяжкасць у тым, што Еўропе цяжка прыняць адразу так шмат людзей», — адзначыў Абдулразак Гурна. Па словах пісьменніка, людзі, якія перабіраюцца жыць у іншую краіну, заўсёды могуць даць ёй нешта наўзамен. «Яны не прыязджаюць з пустымі рукамі, многія з іх таленавітыя, энергічныя… І гэта іншы спосаб зірнуць на праблему, а не проста бачыць у гэтым прыём жабрацкіх нікчэмнасцяў».

Пісьменнік шчыра прызнаўся, што яшчэ не ўсвядоміў, што стаў Нобелеўскім лаўрэатам. Калі яму патэлефанавалі і паведамілі пра высокую ўзнагароду, ён спачатку падумаў, што гэта розыгрыш. Прыемная навіна заспела лаўрэата на ўласнай кухні.

«Звычайна падобныя рэчы лунаюць у паветры тыдні ці нават месяцы — імёны прэтэндэнтаў. Майго імя тут не было, я ўсяго толькі думаў: цікава, хто атрымае прэмію?» — прызнаўся Абдулразак Гурна. А вось як ён апісаў творчы працэс: «Я адчуваю радасць, калі завяршаю. Так, многае з усяго гэтага з'яўляецца імпульсіўным, прымусовым, чымсьці, што доўжыцца дзесяцігоддзямі. Гэтым нельга займацца, калі гэта вам ненавісна. Але я думаю, што гэта адначасова і задавальненне ад стваральнай працы, і радасць ад навядзення мастоў…».

Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры атрымае дыплом, залаты медаль і грашовую ўзнагароду ў памеры дзесяці мільёнаў шведскіх крон (каля мільёна даляраў ЗША). Агульнай цырымоніі ўзнагароджання не будзе — усе пераможцы Нобелеўскую прэмію атрымаюць у сваіх краінах.

# Кніжная сталіца 2023 года

Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Одры Азулай назвала Акру (заходнеафрыканская Рэспубліка Гана) Сусветнай сталіцай кнігі ЮНЕСКА на 2023 год.

Пасля Гвадалахары (Мексіка) у 2022 годзе горад Акра быў абраны за «непахісную ўвагу да моладзі і яе патэнцыял у папулярызацыі культуры і багацця Ганы», а «прапанаваная праграма Акры прапагандавала моцу кнігі ў эфектыўным выхаванні будучых пакаленняў».

Горад прапанаваў Камітэту Сусветнай сталіцы кнігі праграму, арыентаваную на грамадскія групы з нізкім узроўнем пісьменнасці, — такія, як жанчыны, моладзь, мігранты, бяздомныя дзеці і людзі з абмежаванымі магчымасцямі. Акра плануе палепшыць школьную і грамадскую інфраструктуру і забяспечыць інстытуцыйную падтрымку навучання на працягу ўсяго жыцця жыхароў для развіцця культуры чытання. У заяве Акры значная ўвага надавалася правам чалавека, у тым ліку павышэнню інфармаванасці грамадства аб свабодзе друку і выказвання.

У Акры будзе адзначацца і Сусветны дзень свабоды прэсы.

# «Літаратурны Парнас»

Адбылася цырымонія ўручэння Усеўкраінскай літаратурнай прэміі «Літаратурны Парнас».

Ганаровая ўзнагарода заснавана рэдакцыяй газеты «Літературна Україна» ў супрацоўніцтве са шматлікімі арганізацыямі-партнёрамі ўкраінскай дыяспары. Лаўрэаты былі адзначаны за выдатны ўнёсак у літаратуру, кнігавыданне і культуру чытання.

Сёлета лаўрэатамі прэміі «Літаратурны Парнас» сталі прафесар Універсітэта імя Івана Франка Тарас Саліга, празаік Віктар Палінскі, паэт Алесь Дзяк, пісьменнік, вучоны і перакладчык Ігар Паўлюк, паэтка Марыя Людкевіч, пісьменнікі Анастасія Марсыз, Сергій Лазо і Аксана Шчырба.

Газета «Літературна Україна», заснавальніца прэміі, адыгрывае выключную ролю ва ўкраінскай культуры больш за дзевяноста гадоў. На яе старонках дэбютавала пакаленне шасцідзясятнікаў. У вырашальныя гады на світанку незалежнасці выданне паслядоўна адстойвала ўкраінскую мову, права на самавызначэнне і суверэнітэт. У прыватнасці, на старонках газеты была апублікавана першая праграма Народнага руху Украіны. Сёння яна аб'ядноўвае вялікую чытацкую і пісьменніцкую супольнасць Украіны і нацыянальнай дыяспары. Сучасная місія «Літературнае Украіны» — наладжванне культурнага дыялогу і пашырэнне межаў украінскага свету. Газета ўручае шэраг ганаровых узнагарод, у тым ліку «Міжнародную прэмію сябра літаратуры» (для мецэнатаў, палітыкаў і прапагандыстаў чытання) і Прэмію імя Уладзіміра Сасюры.

# Захоп «Литературной России»?

На рэдакцыю газеты «Литературная Россия» быў здзейснены напад.

Як адзначылі супрацоўнікі выдання, гэта быў напад не толькі на незалежную газету, але і на свабоду слова ў Расіі, на расійскую шматнацыянальную культуру і літаратуру.

Ініцыятарам захопу памяшкання рэдакцыі стаў Дэпартамент гарадской маёмасці Масквы, які і даслаў «малойчыкаў» без апазнавальных знакаў, якія па-варварску ўзламалі дзверы.




«Усё робіцца дзеля таго, каб «Литературная Россия» перастала існаваць», — адзначаюць супрацоўнікі газеты. Паэт С. Арцюнаў паведаміў аб самаўпраўстве таямнічага «ЧОПа»: «Сцэнар звычайны: нейкі «ЧОП» (брыгада гасцей з відавочна паўднёвых краёў) не пусціла рэдакцыю ў памяшканне. Галоўны рэдактар і супрацоўнікі стаялі ў прылазніку і не маглі ўвайсці, пісалі заяву ў паліцыю, якая стаяла там жа. Рэакцыя на «брыгаду» ў паліцыі была відавочна станоўчая… Рэдакцыю папярэджвалі, рэдакцыя не пачула…».

Былі арыштаваныя аргтэхніка і дакументы; гаворка можа ісці, сцвярджаюць супрацоўнікі газеты, аб рэйдэрскім захопе, сілавой расправе з выданнем на падставе рамонту даўно не рамантаванага памяшкання.

Пазней супрацоўнікам рэдакцыі вылучылі некалькі гадзін на збор і вываз дакументаў і рукапісаў.

«Разгром рэдакцыі "Литературной России" — без сумневаў акцыя палітычнага запалохвання, — сцвярджаецца на сайце газеты. — Хоць, вядома, у ёй ёсць і фінансавы складнік: доўг рэдакцыі перад арэндадаўцам. Але што такое 2 мільёны рублёў для маскоўскай мэрыі? Прыкладна тое ж самае, што для нас з вамі месячны праязны на грамадскім транспарце. Аднак пры страце праязнога мы ж з вамі не выклікаем для разборкі дагестанскіх браткоў! А наўнасць у гэтай гісторыі дагестанцаў якраз і сведчыць аб крымінальна-палітычным аспекце акцыі, праведзенай у цэнтры Масквы "пад покрывам ночы"».

«Литературная Россия» — выданне малабюджэтнае. Голас газеты шмат каму не падабаўся: яна займала задзірлівую пазіцыю ў стаўленні і да федэральных, і да сталічных уладаў, некаторых устаноў культуры і навукі, якія праводзяць, на думку рэдакцыі, тэндэнцыйную палітыку ў дачыненні да традыцыйных каштоўнасцяў.

# «Литфонд» прадаваў класікаў

Рарытэтныя зборнікі Маякоўскага, Блока і Гумілёва прадавалі ў Маскве на аўкцыёне 14 кастрычніка. Кошт кніг, паводле экспертных ацэнак, перавышаў 20 мільёнаў расійскіх рублёў.



Аўкцыённы дом «Литфонд» прадставіў прыватны збор рэдкіх кніг і аўтографаў эпохі Сярэбранага веку. У пераліку рарытэтаў на таргах было многа першых кніг культавых паэтаў. Акрамя дэбютных выданняў можна было набыць рэдкія кнігі і аўтографы, сярод іх — Барыса Пастэрнака і Ганны Ахматавай.

# Барацьба з кнігамі ў Афганістане

На працягу двух месяцаў 95% кнігарняў, бібліятэк і выдавецтваў у Афганістане зачыніліся.

Пра гэта паведаміў chytomo.com са спасылкай на TOLOnews, 8am.af. Эканамічныя і палітычныя ўмовы руху «Талібан» прывялі ў краіне да масавай «зачысткі» літаратурнай прасторы. Акрамя таго, у многіх пакупнікоў кніг няма сродкаў на іх набыццё. У краіне абмежаваны доступ да адукацыі, што таксама негатыўна паўплывала на продаж кніг і наведванне бібліятэк.

«Праца кнігагандляроў і выдаўцоў практычна цалкам заблакаваная. У людзей няма ежы, адзення, ім не да кніг і чытання», – канстатаваў Саед Ахмад Саід, прэзідэнт Асацыяцыі афганскіх выдаўцоў.

# Чвэрць амерыканцаў не чытае кнігі

Паводле апытання насельніцтва ЗША, праведзенага Pew Research Center з 25 студзеня па 8 лютага гэтага года, прыкладна чвэрць дарослых амерыканцаў (23%) прызналіся, што за апошні год не чыталі кнігу цалкам або часткова ні ў друкаваным, ні ў электронным выглядзе ці аўдыёфармаце.

Паводле даследавання, з тым, што людзі не чытаюць кнігі, звязаны некаторыя дэмаграфічныя асаблівасці. Напрыклад, мужчыны (26%) часцей не чыталі кнігі за апошні год, чым жанчыны (21%). Дарослыя амерыканцы з сярэдняй адукацыяй або ніжэй з большай верагоднасцю, чым людзі са ступенню бакалаўра або вучонай ступенню, паведамлялі, што ў мінулым годзе не чыталі кнігі (39% супраць 11%). Амерыканцы з больш нізкім узроўнем адукацыі таксама ў меншай ступені валодаюць смартфонамі — усё больш распаўсюджаным спосабам чытання электронных кніг. Акрамя таго, амерыканцы, чый гадавы сямейны даход складае менш за 30 тысячаў даляраў, з большай верагоднасцю не будуць чытаць кнігі, чым тыя, хто жыве ў сем'ях, якія зарабляюць 75 тысячаў і больш (31% супраць 15%). Лацінаамерыканцы (38%) часцей, чым афраамерыканцы (25%) ці белыя (20%), прызнаваліся, што не чыталі кнігі на працягу апошніх 12 месяцаў.

Калі б у Беларусі былі дазволены незалежныя сацыялагічныя апытанні, пра што б прызналіся нашыя чытачы-суайчыннікі?


Тэлефон для даведак: **(8-017) 354-80-91.**
Адрас электроннай пошты: **sbp@tut.by**

З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах: **novychas.by, lit-bel.org і kamunikat.org.**